*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак* БАГУШЭВІЧ




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 50 (210) | 14 снежня 1994 г. | Кошт — 40 рублёў

*У ВЕРАСНІ Ў НАШЫМ ДРУКУ БЫЛО ШМАТ АРТЫКУЛАЎ ПРА ЗНАКАМІТУЮ АРШАНСКУЮ БІТВУ. АЛЕ Ў БОЛЬШАСЦІ ПУБЛІКАЦЫЙ ДАПУШЧАНА СКАЖЭННЕ АЙЧЫННАЙ ГІСТОРЫІ.* Стар. 2.

*ШТО ПЕРАШКАДЖАЕ НАШЫМ ГРАМАДЗЯНАМ ШТОДЗЁННА ЎЖЫВАЦЬ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ?* Стар. 2.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **У БУДАПЕШЦЕ ПРАЙШЛА СУСТРЭЧА КІРАЎНІКОЎ ДЗЯРЖАЎ І ЎРАДАЎ КРАІН — УДЗЕЛЬНІЦ НАРАДЫ ПА БЯСПЕЦЫ І СУПРАЦОЎНІЦТВУ Ў ЕЎРОПЕ (НБСЕ).** Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў Мемарандум аб гарантыях бяспекі Беларусі. Кіраўнікі Злучаных Штатаў Амерыкі, Расійскай Федэрацыі, Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі сваімі подпісамі замацавалі дакументы, якія гарантуюць Беларусі, Украіне і Казахстану павагу іх незалежнасці, суверэнітэту, а таксама існуючых граніц. Краіны-гаранты «зноў пацвярджаюць сваё абавязацельства ўстрымацца ад пагрозы выкарыстання сілы супраць тэрытарыяльнай цэласнасці або палітычнай незалежнасці Беларусі, а таксама, што зброя гэтых краін не будзе выкарыстана супраць Беларусі інакш, чым у мэтах самаабароны або ў адпаведнасці са Статутам ААН».

❍ ***ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА Ў ПЕРШЫ ДЗЕНЬ СУСТРЭЧЫ Ў ВЯРХАХ У РАМКАХ НБСЕ ПРАВЁЎ КАРОТКУЮ ГУТАРКУ З ЖУРНАЛІСТАМІ.*** *Гаворачы аб адносінах з Расіяй, ён сказаў: «Мы ўзгаднілі практычна ўсе пытанні, і цяпер патрэбен час, каб падпісаць вялікі дагавор і ў развіццё яго прыкладна 27—30 пагадненняў. Гэтыя дакументы ўзмоцняць нашу інтэграцыю і паставяць дзве краіны фактычна ў рамкі Эканамічнага саюза».*

❍ **У ГАЗЕЦЕ «СВАБОДА» З'ЯВІЛАСЯ ІНФАРМАЦЫЯ**, у якой гаворыцца, што, выступаючы на сесіі Гомельскага гарсавета, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка растлумачыў прысутным, чаму ён не размаўляе па-беларуску: «Людзі, якія размаўляюць на беларускай мове, не могуць рабіць нічога, як толькі размаўляць на беларускай мове. Таму што па-беларуску нельга выказаць нешта вялікае. Беларуская мова — бедная мова. У свеце існуе толькі дзве вялікія мовы — гэта расейская і англійская». І, відаць, у свеце існуе толькі адзін такі Прэзідэнт, які не паважае мову свайго народа!

❍ ***5 СНЕЖНЯ Ў ВІЦЕБСКУ АДБЫЛАСЯ ТРЭЦЯЯ МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ «БЕЛАРУСКА-РУСКА-ПОЛЬСКАЕ ПАРАЎНАЛЬНАЕ МОВАЗНАЎСТВА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА».*** *На ёй прысутнічалі філолагі АН Беларусі, Белдзяржуніверсітэта, вышэйшых навучальных установаў абласных цэнтраў нашай краіны, а таксама іх калегі з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Варшавы, Кракава, Беластока, Львова і іншых гарадоў блізкага замежжа. Канферэнцыя прайшла пад дэвізам: «Мова — душа народа».*

❍ **У МЕНСКУ Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЛАСЯ ЎСТАНОЎЧАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ** палітычнай партыі Хрысціянскі Дэмакратычны Выбар Беларусі, у якую ўваходзяць бізнесмены, камерсанты, фінансісты і прадпрымальнікі. На жаль, утвараецца яшчэ адна партыя, якая не карыстаецца дзяржаўнай мовай — беларускай.

*У газетах*

## Калі прададуць апошняга беларуса?

Пад такой назвай у рубрыцы «Актуальнае пытанне» менская гарадская газета дэмакратычнага накірунку «Добры вечар» (№ 223) змясціла артыкул Віктара Стрыжака. Аўтар публікацыі лічыць, што пытанне, вынесенае ў загаловак, зараз пагрозліва, як абух над галавой, завісла над кожным беларусам. Таму маўчанне ў гэты крытычны перыяд — зусім не золата.

В.Стрыжак падкрэслівае, што пры камуністычным рэжыме паніхідных сітуацый для беларускай нацыі таксама з верхам хапала. Але і сённяшніх набалелых праблем — лічыць не злічыць. Адной сярод найбольш злабадзённых з'яўляецца адкрыты наступ на ідэі Адраджэння, на духоўныя патрэбы беларусаў былой партнаменклатуры, якая колькасна пераважае ў парламенце і ў нашым урадзе. У выніку нацыянальнае Адраджэнне зноў апынулася пад вялікай пагрозай. Аўтар засяроджваецца на тым, што пасля дэкларавання дзяржаўнай суверэннасці Беларусі нішто, здавалася б, не павінна замінаць нам вольна і дэмакратычна крочыць наперад. Але гэта толькі здавалася. Па-ранейшаму не спыняюцца спробы саштурхнуць нас у самыя цесныя абдымкі з расійскім «мядзведзем». На думку В.Скрыжака, калі гэта здарыцца, расійскі капітал непазбежна ўмомант праглыне нашу нацыянальную эканоміку разам з беларускім суверэнітэтам, заткнуўшы рот тутэйшым уладам абяцанкамі лёгкага жыцця. Таму ні пра які раўнапраўны саюз з «мядзведзем» гаворка не можа ісці. Наконт жа культуры беларусаў, іх нацыянальнага Адраджэння тады ўжо нельга будзе і заікнуцца, бо навошта стане Расія фінансаваць культуру васальнай тэрыторыі?

У публікацыі адзначана, што ў нашым цяперашнім жыцці падстаў для такой змрочнай перспектывы, на жаль, хапае. Так, ідэя нацыянальнага Адраджэння можа аказацца прыглушанай, а беларускі рух, па сутнасці, ліквідаваным шляхам задушэння беларускамоўнай прэсы, якая адыгрывае велізарную ролю ў росце свядомасці грамадзян. Спасылкі ўрада, — заўважае В.Стрыжак, — на адсутнасць сродкаў для фінансавання беларускамоўных газет і часопісаў выглядаюць тут проста недарэчнымі: выданні, якія робяць дзяржаўную справу ў галіне роднай культуры, навукі, літаратуры, адукацыі, аказаліся не па кішэні ўласнай дзяржаве...

У якасці прыкладу задушэння аднаго з беларускамоўных выданняў аўтар называе часопіс «Зрок» (заснавальнікі Беларускае таварыства інвалідаў па зроку і газета «Чырвоная змена»), які праіснаваў усяго чатыры гады, але набыў высокі аўтарытэт (публікацыі вядомых паэтаў Р.Барадуліна, Н.Гілевіча, К.Камейшы, Б.Гардзея, гісторыка М.Ермаловіча і інш.). Выдавецкую базу «Зрока» скупіла нейкае таварыства з рускай абрэвіятурай РЕМСПИЛ (займаецца манжатом сантэхнікі).

Якое выданне на чарзе, і дзе той беларус, — завяршае матэрыял актуальным пытаннем аўтар, — каго прададуць апошнім?

М.В.

*Я ЎСТУПІЎ У НАРОДНЫ ФРОНТ ПРАЗ ДВА ДНІ ПАСЛЯ ДЗЯДОЎ У 1988 ГОДЗЕ. НА МЯНЕ ПАЎПЛЫВАЛА СТРАШЭННАЯ ПРАЎДА ПРА КУРАПАТЫ...* Стар. 3-4.

*СВЕРБ ПАДЛАДЖВАННЯ.* Стар. 5.



## Наваселле

Прыемна, што ў наш нялёгкі час не спыняецца будаўніцтва аб'ектаў народнай адукацыі. Нядаўна ў Баранавічах гасцінна запрасіў дзятву новы Дом школьніка. Тут адначасова 3600 хлопчыкаў і дзяўчынак змогуць займацца любімай справай: ляпіць, маляваць, авалодваць рознымі відамі спартыўнага майстэрства і тэхнічнай творчасці.

Ёсць у новабудоўлі і свае нявырашаныя праблемы, перш-наперш — недахоп абсталявання для работы гурткоў. Чяма і надзейных фундатараў, а мясцовы аддзел адукацыі, якому належыць Дом, на свае сродкі проста не ў стане забяспечыць дзяцей усім неабходным.

**На здымку**: Баранавіцкі Дом школьніка.

**Фота Белінфарма.**

*ПРАКЛЯЦЦЕ ЗАЛАТОГА ЦЯЛЬЦА.* Стар. 7.

РУПЛІЎЦЫ

# Юрый Хадыка: мяне абудзілі Дзяды

*Інтэрв'ю доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара, загадчыка лабараторыі оптыкі неўраўнаважаных асяродкаў Інстытута фізікі Беларускай акадэміі навук, намесніка старшыні Беларускага народнага фронту Юрыя Віктаравіча Хадыкі*



**— Юрый Віктаравіч, у пэўнай ступені Вы чалавек легендарны. Прычым легенды вакол Вас узніклі яшчэ да часу так званай перабудовы. Пра Вас з вялікай павагай на пачатку 80-х гадоў гаварылі нават у асяродку вучоных-фізікаў Масквы. І не толькі як пра таленавітага даследчыка ў галіне фізікі, славу дадалі Вашы цікавыя публікацыі па гісторыі беларускага мастацтва. Скажыце, а як адбыўся Ваш жыццёвы выбар?**

— Перш-наперш паўплывалі сям'я і маё захапленне беларускім мастацтвам. Я нарадзіўся ў Менску, жыў на вуліцы Мяснікова — паблізу Дома ўрада, казармы міліцыі і драўлянай царквы чыгуначнікаў, якую пазней знеслі. Мой бацька — беларус, паходзіў з Віцебшчыны, маці — расійка, родам з Курскай вобласці. Тата прывёз яе адтуль са сваёй студэнцкай практыкі. У сям'і жыла бабуля — матчына маці. Бацька заахвочваў мяне займацца фізіка-матэматычнымі, прыродазнаўчымі навукамі, а бабуля імкнулася прывіць веру ў Бога. У далейшым гэта паўплывала на выбар прафесіі і на стаўленне да рэлігіі. З лёгкай бацькавай рукі я паступіў на фізмат БДУ, пасля заканчэння якога як ленінскі стыпендыят быў размеркаваны ў Інстытут фізікі.

**— А калі ўпершыню Вы сабе сказалі: «Я — сын Беларусі»?**

— Вельмі няхутка. Рос я звычайным хлопцам, такім, як і ўсе. Дзяцінства — піянерскае, юнацтва — камсамольскае. Дарэчы, у мужчынскай сярэняй школе № 60, якую я скончыў, ніхто нават не спрабаваў выхоўваць падлеткаў беларускімі патрыётамі.

**— А ўплыў бацькі?**

— Бацька пазбягаў гутарак на нацыянальныя тэмы. Прафесійны гісторык, ён у трыццацігадовым узросце кінуў настаўнічаць і паступіў у політэхнічны інстытут, каб стаць інжынерам-будаўніком. Яму давялося вывучаць матэматыку, іншыя цяжкія для сябе прадметы. Толькі пазней я зразумеў, чаму ён так зрабіў.

**— Відаць, хацеў засцерагчыся ад рэпрэсій?**

— Так. Тады, у трыццаць першым годзе, быў усплёск барацьбы з нацдэмаўшчынай, якая ў першую чаргу закранала гуманітарыяў.

**— У сям'і размаўлялі па-руску?**

— Акрамя тых выпадкаў, калі ў нас жылі родзічы з бацькоўскага боку. Вы ж ведаеце, з вёсак тады беглі ўсе. Асабліва з поўначы краіны, дзе было ўсё разбурана. Дык вось мае стрыечныя сёстры, перабраўшыся на пастаяннае жыхарства ў Менск, яшчэ вельмі доўга размаўлялі па-беларуску. Таму што не так гэта лёгка — перавучвацца.

**— А Вы?**

— Для мяне такой праблемы не існавала, на якой мове гаварыць. Хоць памятаю, у першыя мае студэнцкія гады ва універсітэце для многіх юнакоў і дзяўчат былі цяжкасці з пераходам на рускую мову, на якой вялося навучанне. Ну а я, прызнаюся, нават ганарыўся, што добра па-расійску размаўляю. Але калі неяк, ужо напачатку маёй навуковай дзейнасці, мы з менскімі калегамі паехалі ў Маскву на семінар, там нас паслухалі і сказалі: «Ну вот, это белорусы». Гэта не было абразай, а проста канстатацыяй факта, таго, што мы за сабой не заўважалі, у тым ліку і я.

**— У Вас былі праблемы з нацыянальным самавызначэннем?**

— Былі. У 16 гадоў, атрымліваючы пашпарт, я ўжо ўсведамляў, што Беларусь — мая радзіма. Тым больш, што часта гасцяваў у сваякоў на Віцебшчыне. І таму папрасіў запісаць мяне беларусам — па бацьку. А мне растлумачылі, што нельга, нацыянальнасць выбіраецца па маці, — такое, маўляў, заканадаўства. Пасля разы са тры, пры абмене пашпарта, спрабаваў памяняць нацыянальнасць, — не атрымалася.

**— Калі Вы зацікавіліся мастацтвам?**

— У Інстытуце фізікі пад уплывам Сяргея Іванавіча Анісімава, які стаў маім сапраўдным настаўнікам у навуцы і жыцці. Ён паказваў на ўласным прыкладзе, што для сапраўднага вучонага важныя не толькі глыбокія веды па спецыяльнасці, але высокая агульная культура. Пад яго ным уплывам, каб не выглядаць белай варонай, я і пачаў цікавіцца мастацтвам,

**— Беларускім?**

— Хутчэй сусветным. Напрыклад, што такое імпрэсіянізм і чым ён адрозніваецца ад экспрэсіянізму.

**— Мастацтва стала Вашым хобі?**

— Так, але толькі да часу майго знаёмства з супрацоўніцай маленькага беларускага аддзела пры Беларускім дзяржаўным музеі Элеанорай Вецер — абаяльнай і таленавітай. Гэта адбылося ў 1964 г. Я тады адказваў за культурна-масавы сектар у камсамольскім бюро і шукаў чалавека, які змог бы прасвяціць галовы маладых фізікаў у галіне мастацтва, дапамагчы ім разабрацца ў яго сутнасці, каранях, асаблівасцях.

**— І Элеанора Іванаўна пагадзілася?**

— Пагадзілася і пачала нас адукоўваць. Я ніколі больш не сустракаў чалавека, які б так лёгка і пераканаўча вучыў людзей бачыць прыгожае. Яе лекцыі наведвала прыблізна чацвёртая частка супрацоўнікаў Інстытута фізікі — чалавек 50—60.

**— Гэта былі лекцыі па гісторыі беларускага мастацтва?**

— Не. Гэта быў своеасаблівы лікбез па агульнай тэорыі мастацтва, знаёмства з яго спецыфікай, жанрамі, плынямі.

**— А як жа ўзнік «нацыяналізм»?**

— Паколькі Элеанора Вецер была супрацоўніцай менавіта беларускага аддзела музея, то праз некалькі лекцый яна прапанавала нам наведваць выставы беларускіх мастакоў, а затым сагітавала агледзець помнікі культуры ў Вільні, Троках, Маскве, Уладзіміры, Пскове, Ноўгарадзе, Кіеве, Львове.

**— Да ісціны ішлі шляхам параўнання?**

— Сапраўды так. За тры гады такім чынам у нас склалася стабільная група людзей, зацікаўленых, скажам так, каранямі старажытнага мастацтва, у тым ліку і беларускага. У 1968 годзе летам і ўвосень мы зрабілі першыя экспедыцыі па Беларусі і адразу пачалі прывозіць помнікі старажытнага мастацтва, якія ў той час у занядбанні валяліся пад адкрытым небам: скульптуры і нават абразы. Аднойчы прывезлі з разбуранага касцёла ў Міры — акурат пасля хрушчоўскай хвалі вандалізму — шэсць ці сем выдатнейшых скульптур. Здалі іх у Дзяржаўны музей, а там, на наша здзіўленне, кінулі ўсё гэта ў сутарэнне. Творы гэтыя, нягледзячы на ўсе нашы намаганні, ні разу не выстаўляліся. Гэта стала для нас першым грамадзянска-палітычным урокам. Было вельмі крыўдна бачыць — па кантрасту з Расіяй, Прыбалтыкай, Украінай: там помнікі нацыянальнай культуры захоўваюцца, рэстаўрыруюцца, прапагандуюцца, а ў нас усё гэта закінута, занядбана, злачынна знішчаецца. Сёння цяжка паверыць, але калі мы ўпершыню прывезлі ў Акадэмію навук восем абразоў XVIII стагоддзя, у нас нават адмовіліся іх прыняць. Яны прастаялі тыдзень у галоўным вестыбюлі каля дзяжурнага міліцыянера, і ўрэшце мы былі вымушаны іх захоўваць на сваіх кватэрах. Усё гэта паступова рабіла нашу групу навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі, індыферэнтную да нацыянальных праблем, цалкам патрыятычнай. Шмат было чаго і яшчэ. Урэшце добраахвотнае аб'яднанне, каб легалізаваць сябе пры Інстытуце мастацтвазнаўства і атрымаць дазвол на збор помнікаў, вырашыла пераўтварыцца ў пастаянны Семінар па вывучэнні старажытнабеларускай культуры.

**— Тады Вы і пазнаёміліся з Зянонам Пазьняком?**

— З будучым лідэрам Беларускага народнага фронту я пазнаёміўся на пачатку семідзесятых гадоў, калі той быў аспірантам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Пазьняк ужо тады быў чалавекам рэвалюцыйнага складу. Памятаю захапленне, якое мы ўсе перажылі, калі яму ўдалося надрукаваць у «Правде» артыкул у абарону вуліцы Нямігі, якую збіраліся зносіць.

**— І практычна знеслі-такі.**

— Зянон Станіслававіч заклікаў наш Семінар бараніць Нямігу ад разбурэння, начаваць на гэтай вуліцы ў знак пратэсту і іншае. Але мы не пайшлі на такі крок, бо пад пагрозу ставілася наша праца па збору помнікаў, каштоўнасць якой мы ўжо ўсвядомілі. Мы не дасягнулі з Пазьняком паразумення, бо шлях паслядоўнай і свядомай палітычнай дз йнасці быў для нас яшчэ недасягальны. Наша дзейнасць насіла выключна культурніцкі характар.

**— А рух за адраджэнне мовы?**

— Я ведаў людзей, якія патрабавалі ў той час рашучага адраджэння беларускай мовы, пашырэння сферы яе ўжытку, але наш Семінар ні псіхалагічна, ні рэальна не быў гатовы пайсці на гэта. Памятаю, мы і Алегу Бембелю, які выдаў кнігу ў абарону беларускай мовы, выстаўлялі нейкія контраргументы, сцвярджаючы, што беларуская культура — гэта не толькі мова. Не разумеючы яшчэ, што мова — галоўны элемент нацыянальнай культуры.

**— Тым не менш Вы апынуліся ў эпіцэнтры змагання за Беларускі народны фронт.**

— Па сваёй псіхалогіі я адношуся да людзей, якіх завуць шасцідзесятнікамі (нарадзіўся ў 1938 годзе). Мае першапачатковыя захапленні камуністычнай ідэяй з часоў камсамольскага юнацтва былі падарваны ў хрушчоўскую пару і той рэакцыяй, што прыйшла на змену так званай «адлізе». Тады я пачаў памалу ўсведамляць гнюснасць кіруючай сістэмы. У Акадэміі адмовіўся заняць пасаду вызваленага камсамольскага сакратара і адмовіўся ўступіць у КПСС. Доктарскую дысертацыю абараніў, прафесарам стаў па-за партыяй.

**— А ўсё ж Вы туды ўступілі.**

— Абставіны прымусілі. Пайшоў на кампраміс у 1981 годзе. Я чатырнаццаць гадоў кіраваў лабараторыяй на грамадскіх пачатках, без аплаты, паколькі не з'яўляўся партыйным. А ў нашы навуковыя справы пастаянна ўмешвалася партарганізацыя, на рашэнні якой як беспартыйны я не мог уплываць. А ўступіўшы ў КПСС і затым адказваючы ў парткаме за маладзёжны сектар, я атрымаў магчымасць разварушыць камсамольцаў, абудзіць іх ад грамадскай санлівасці ды й зацікавіць сапраўднай навукай, якая памірала на вачах. Тады, напярэдадні 1988 года, я ўпершыню бліжэй пазнаёміўся з маладымі хлопцамі і дзяўчатамі, якія ўваходзілі ў майстроўню Вінцука Вячоркі, — пра іх тады газеты змяшчалі розныя брудныя пасквілі, а кампартыйныя прапагандысты праклiналі ў сваіх лекцыях. Я таксама прачытаў лекцыю — гэтым маладым майстроўцам — пра мастацтва Беларусі. Трэба было бачыць, як яны слухалі, якія разумныя задавалі пытанні. На іх сустрэчы з камсамольцамі Акадэміі навук мяне ўразіў кантраст: такімі незашоранымі, разумнымі ды дапытлівымі выглядалі майстроўцы ў параўнанні з нашымі камсамольскімі актывістамі з іх закамплексаванасцю, зафармалізаванасцю і нейкай хранічнай бояззю перамен, навізны. Таму, калі ў дваццатых недзе чыслах кастрычніка 1988 года з'явілася ў кампартыйным друку абразлівая публікацыя пад загалоўкам «Пена на хвалях перабудовы», я выступіў на партканферэнцыі Акадэміі навук з пратэстам супраць цкавання патрыятычна ды дэмакратычна настроенай моладзі і свядомай інтэлігенцыі і прапанаваў нашым акадэмікам прыняць рэзалюцыю з асуджэннем гэтай ганебнай акцыі. Мяне не падтрымалі, сказаўшы, што не іх справа абараняць дысідэнтаў, хай, калі хоча, Хадыка займаецца гэтым асабіста.

**— Добра, што ўвогуле не пастанавілі выгнаць з Акадэміі.**

— Раскол пачынаўся і сярод камуністаў. Ну а я пайшоў на забаронены ўладамі мітынг, які гэтыя дысідэнты вырашылі правесці 30 кастрычніка 1988 — на славутыя Дзяды.

**— Бязлітасны разгром шэсця на Дзяды ўразіў многіх сумленных людзей. Казалі, улады страшэнна баяліся, што будзе абвешчана стварэнне Народнага фронту.**

— Беларускі народны фронт не мог не быць створаны, і гэта неўзабаве было абвешчана — па ўсіх правілах, з занатаваннем вынікаў галасавання ў пратаколе. Я ўступіў у Народны фронт праз два дні пасля мітынгу на Дзяды. На мяне паўплывала і страшэнная праўда пра Курапаты, і тое, што ў фронце быў Васіль Быкаў, а ён для мяне — вялікі пісьменнік і вялікі аўтарытэт — такі вулкан пад спакойнай паверхняй.

**— Вы сталі адразу змагацца за пашырэнне шэрагаў народнафронтаўцаў і прапаганду БНФ?**

— На пачатку лістапада ўжо ад імя кіраўніцтва Народнага фронту я прысутнічаў на сустрэчы грамадства з прадстаўнікамі мясцовай савецкай улады, а 10 лістапада павесіў у корпусе Інстытута фізікі абвестку: «Запісвайцеся ў суполку БНФ!» Сваё прозвішча паставіў першы. Праз пару гадзін пад абвесткай падпісаліся больш за 20 чалавек. Дзякуючы паразуменню з дырэктарам наша суполка вялікага ўціску не адчувала, хоць нападкі, вядома, былі.

**— Тады ж Вас вылучылі кандыдатам у дэпутаты З'езда народных дэпутатаў СССР. Дзякуючы БНФ?**

— Мяне вылучылі многія навуковыя калектывы. 26 установў — і ўсе вялікія.

**— На Вас тады адразу пачаліся нападкі з боку кампартыйных органаў, былі вельмі нахабныя правакацыі. Якія з іх асабліва Вас уразілі?**

— Правакацыі былі розныя: грубыя, якія выклікалі абурэнне і схілялі ў мой бок людзей, перад тым нейтральных, і даволі тонкія, хітрыя, а таму небяспечныя.

**— Адна з правакацый, помніцца, была на тым пабудавана, што Вас бачылі з айцом Надсанам, уніятам.**

— Калі б у артыкуле, які надрукаваў «Вячэрні Мінск» перад другім турам галасавання, было толькі гэта, то я не стаў бы выказваць нейкія прэтэнзіі. Я сапраўды прыйшоў да уніяцтва. Але ж там было многа рознай брыдкай хлусні, у тым ліку выпады супраць асобы айца Аляксандра, перакруты яго біяграфіі і іншае. Усё гэта ўводзіла ў зман выбаршчыкаў.

**— Калі ласка, крыху падрабязней пра Ваша веравызнанне.**

— Пачну з таго, што маё пакаленне з такога часу, калі ў людзей ужо амаль ніякай веры не засталося. Ну а ў сям'і мая бабуля была не проста праваслаўнай, а хадзіла ў царкву. І да таго часу, пакуль унукі слухаюцца сваіх бабуль, я з ёю таксама хадзіў, запомніў нават некаторыя службы. Бацька мне гаварыў, што наша сям'я з праваслаўных. Спачатку і я ўспрымаў сябе як праваслаўны. А пачаў пераглядаць сваё стаўленне да веравызнання, асэнсоўваць гістарычныя карані таго ж праваслаўя, калі захапіўся зборам і вывучэннем беларускіх культурных помнікаў. І гэта было адным з найбольш моцных уражанняў. Мы чакалі знайсці на Беларусі значны культурны след праваслаўя, а знайшлі зусім іншыя рэчы. Пасля карпатлівага вывучэння матэрыялаў, крыніц стала больш зразумелым, чаму расійская афіцыйная прапаганда гэтак прыніжала, зневажала уніяцкае мастацтва. Таму што

(Заканчэнне на с.4.)

РУПЛІЎЦЫ

# Юрый Хадыка: мяне абудзілі Дзяды

*(Заканчэнне. Пачатак на с.3.)*

гэтае надзвычай прыгожае, дасціпнае мастацтва было абсалютна беларускім. І хаця на Вялікдзень па традыцыі мы Семінарам хадзілі ў праваслаўны храм, я сказаў сабе і іншым: «Вы сабе як хочаце, але калі наша даўнейшае царкоўнае мастацтва спрэс уніяцкае ды такое прыгожае, тады я — уніят». Што самае дзіўнае: пазней, калі я ўжо стаў добра разбірацца ў абрадах, мы неяк наведалі могілкі, дзе пахаваны мой дзед. А памёр ён даўно — у самым пачатку веку. І я гляджу, а дзед мой, аказваецца, пахаваны па уніяцкаму абраду. Тады я зусім лёгка ўздыхнуў — гэта ж наша нацыянальнае веравызнанне. І народ наш як мог за яго змагаўся. Перачытваючы «Мужыцкую праўду» К.Каліноўскага, я звярнуў увагу на тое, што адным з лозунгаў паўстання 1863 — 1864 гг. было вяртанне сваёй веры.

**— Але вернемся ў сённяшні дзень. У нас нядаўна была апублікавана гутарка з актывістам БНФ, выдатнай асобай — Кармілкіным. Якія ў Вас з ім адносіны?**

— Я яго вельмі паважаю. Ён чалавек добры, адданы, працавіты. Адзін з нашых надзейных актывістаў і шчыры прыхільнік беларускага Адраджэння.

**— Дык ці была тады магчымасць даць яму пасведчанне сябра БНФ?**

— Тут не толькі магчымасць, але і наш абавязак выдаваць такія пасведчанні. Цяжкасць толькі ў тым, што Кармілкін выказаў пажаданне атрымаць пасведчанне з пэўным нумарам.

**— Дык у чым тады праблема?**

— Думаю, што нумар ужо скарыстаны. А ў тым, што ён павінен атрымаць пасведчанне БНФ, я ўпэўнены.

**— А якія ў Вас цяпер функцыі ў БНФ, калі не сакрэт?**

— У БНФ сакрэтаў няма. Я адказваю перш за ўсё за правядзенне масавых мерапрыемстваў. Праўда, зараз час мітынговай дэмакратыі ўжо мінае.

**— З фракцыяй апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце ў Вас ёсць дачыненні?**

— Пакуль фракцыя фармавалася, мы працавалі разам. Трэба было прыкласці вялікія намаганні дзеля развіцця яе палітычнай культуры. Зараз фракцыя працуе больш самастойна, каардынацыя адбываецца на пасяджэннях Сойма, Управы, Паліткамісіі, а зараз яшчэ і ценявога Кабінета Міністраў.

**— Вы ўзначальвалі прэзідэнцкую кампанію Зянона Пазьняка?**

— Быў адным з яе арганізатараў. Прэзідэнцкая кампанія залежыць галоўным чынам ад самога кандыдата. Зараз займаюся падрыхтоўкай да выбараў у новы парламент.

**— Як можна зразумець з Вашага адказу, фракцыя апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце зараз дзейнічае аўтаномна. Чым гэта патлумачыць, акрамя набыцця палітычнай культуры? Бо як мы разумеем, БНФ стала цяпер не проста аб'яднаннем усіх дэмакратычных патрыятычных беларускіх сіл, а партыяй. Партыя ж іншыя партыі аб'ядноўваць не можа, магчымыя толькі альянсы, саюзы, дамоўленасці аб сумесных дзеяннях і гэтак далей. У той жа час кіраўніцтва партыі дамаўляецца са сваімі дэпутатамі пра пэўную лінію паводзін у парламенце, дэпутаты не могуць дзейнічаць зусім аўтаномна, бо іначай губляецца амаль усякі для партыі сэнс займацца гіганцкай працай у часе выбараў.**

— Ну так, і таму я магу сказаць, што пра партыю БНФ вы прачыталі не ў БНФскай публікацыі, а ў публікацыях дэмакратычных партый. Асабліва Грамада імкнецца падкрэсліць, што БНФ стварыў партыю.

**— Так многія гавораць.**

— Для гэтага ёсць падставы, але з адной істотнай акалічнасцю. Мы ўсе ў кіраўніцтве БНФ добра разумеем, што ператварацца ў партыю БНФ крыху рана. Таму што мэты, якія павінен вырашыць гэты шырокі патры-ятычны рух, дзе няма такой вузкай партыйнай ідэалагічнай спецыялізацыі, яшчэ не дасягнуты. Ён павінен існаваць, таму што такая арганізацыя, як БНФ, якраз стварае ўмовы для шырокіх блокаў, аб'яднанняў.

**— Дык ёсць ці не такая партыя?**

— Разглядаць пытанне аб партыі мы былі вымушаны, калі атрымалі інфармацыю з Вярхоўнага Савета, што рыхтуецца Закон аб выбарах, які не прадугледжвае ўдзелу рухаў у выбарах. Ну, гэта звычайная палітычная гульня, але мы не маглі гэта праігнараваць, таму што пасля няўдачы з рэферэндумам убачылі, што небяспека рэальная — аказацца па-за выбарчай кампаніяй. Таму і было вырашана ўтварыць на базе БНФ партыю, але парламенцкага тыпу.

**— У нас цяпер, здаецца, усе партыі абвясцілі сябе такімі, нават новыя-старыя камуністы?**

— Не. Тут розны сэнс укладаецца. Адна справа — дамагацца ўлады парламенцкім шляхам, як гэта абвяшчаюць усе існуючыя партыі. Але ёсць і больш вузкі сэнс парламенцкай партыі. Прыкладам, дэмакраты і рэспубліканцы ў ЗША. Гэтыя партыі ажываюць і дзейнічаюць толькі ў час выбарчых кампаній. Таму дзіўны факт: актывістаў дэмакратаў і рэспубліканцаў усяго некалькі тысяч на краіну з трохсотмільённым насельніцтвам.

**— Але ж гэта функцыянеры, структура, і там напрацоўваецца праграма, у тым ліку выбарчая. У ЗША ёсць і лібералы, і камуністы. Іншая справа, што не ўсе хочуць фіксіраванага членства.**

— Я і кажу, што партыя БНФ нагадвае хутчэй амерыканскія партыі без фіксіраванага членства і абавязковых складак, якая дзейнічае — гэта мы ў статуце запісалі — у адрозненне ад Грамады, АДП, ПНЗ у часе выбарчай кампаніі. Так што пакуль няма выбарчай кампаніі і не трэба вылучаць кандыдатаў — партыі БНФ няма, а ёсць рух, які існуе побач з партыямі, заснаванымі на пэўнай дагматыцы ці ідэалогіі. Шырокі рух — народны, можна сказаць, кансерватыўны, хрысціянска-дэмакратычны ў нейкім сэнсе. Але мы сваім прыхільнікам не забараняем ніякай ідэалогіі — ні сацыял-дэмакратычнай, ні лібеpальнай, ні нават камуністычнай, калі сёння яны хочуць прымаць удзел у дасягненні незалежнасці, прававой дзяржавы, рынкавай гаспадаркі, Адраджэння Беларусі.

**— У гэтым ёсць пэўная супярэчлівасць, бо Вы, па сутнасці, гаворыце пра ідэалогію руху. У БНФ ёсць кіруючыя органы, рэгулярна збіраюцца соймы, на якіх зацвярджаецца праграма дзеяння, ёсць структуры. Дарэчы, за гэта БНФ паважаюць нават праціўнікі, не гаворачы пра насельніцтва, дзе ўсё больш размоў ідзе, што ў наступны раз прэзідэнтам трэба выбіраць Пазьняка, а гэта значыць — галасаваць за БНФ. Ды і сацыёлагі — успомнім хаця б сустрэчу кіраўніцтва рухаў і партый са Старшынёй Вярхоўнага Савета Мечыславам Грыбам — гавораць пра тое ж. Там, на сустрэчы, сацыёлаг Абрамава сказала, што БНФ нават пры мажарытарнай выбарчай сістэме набярэ працэнтаў 50 дэпутацкіх мандатаў. А калі па мажарытарна-прапарцыянальнай, то і ўвогуле нават 75 працэнтаў дэпутатаў Вярхоўнага Савета акажуцца ў БНФ. У гэтым выпадку і спадар Хадыка безумоўна апыніцца на вельмі высокай дзяржаўнай пасадзе. Гэта было б выдатна. Успомнім, што ў нашай газеце некалі беларус-пецярбуржац Анатоль Кірвель у сваім эсэ назваў Хадыку і Пазьняка двума волатамі беларускага Адраджэння. То калі Зянон Пазьняк зойме вышэйшую прыступку ўлады з ягоным характарам і магутнай воляй, ці зможа яго ў неабходны момант ўраўнаважыць вялікая дасведчанасць і спакойная, але таксама цвёрдая воля Хадыкі? Што ўвогуле можна спрагназаваць?**

— Я пачну з тлумачэння таго, што разумею пад сённяшняй аўтаномнасцю дэпутатаў апазіцыі, бо гэта факт. Там жа не толькі прадстаўнікі БНФ. Выбары ж ішлі па мажарытарнай сістэме — кандыдаты былі як быццам самі па сабе, бэнэфаўцы маглі толькі за некага агітаваць, спрыяць абранню. І гэта дазволіла потым, на жаль, многім абраным адцурацца БНФ. А апазіцыя, што зараз сфармавалася, проста пастаянна кантактуе з БНФ, дэпутаты прымаюць удзел у пасяджэннях Сойма, калі абмяркоўваюцца галоўныя накірункі дзейнасці. Такая аўтаномнасць, на мой погляд, не ёсць ідэальная сітуацыя, таму мы і прапагандуем змешаную сістэму выбараў. Бо калектыўны розум заўсёды больш плённы. А што да асобы Пазьняка, то я Вам скажу: пры ўсёй сваёй знешняй суровасці і нават жорсткасці гэты чалавек вельмі ранімы. З ім нельга размаўляць рэзка, патрабуючы выключна следаваць адной логіцы. Калі я гэта зразумеў, то пачаў вырашаць самыя складаныя праблемы ў дружалюбным ключы — усё нармальна вырашаецца. Горш тое, што такога стылю размоў не ўсе прытрымліваюцца.

**— Тады сыплюцца іскры?**

— Гэта часам выклікае непаразуменні і канфлікты, якія потым прыходзіцца неяк згладжваць. Адзінае, што хацеў бы сказаць: трэба гэтую катэгарычнасць Зянону дараваць. Усё ж такі лідэры не ствараюцца з нічога. І не кожны можа ім быць. Яны нясуць з сабой увесь свой вопыт, усё сваё жыццё. А чалавек, на якога столькі было абрынута хлусні, абразы, зняваг, не можа застацца такім, скажам, мякенькім, падатлівым у паводзінах.

**— Калі яму прырода даравала задаткі лідэра.**

— Так. Гэта фактар, з якім неабходна лічыцца, не ствараць з гэтага праблем. А хто без граху? Катэгарычнасць Пазьняка — не самы вялікі недахоп. Як лідэр ён валодае выдатнымі якасцямі. Розумам, прадбачаннем, што прымушае паважаць чалавека па сутнасці.

**— І дэмакратыя ад гэтага не знікае.**

— Так. Ды і сітуацыя ў нас складаная. Усё ж ідзе ў грамадстве спрэчка аб вельмі істотных праблемах.

**— Цывілізаванага выжывання нацыі?**

— Так. І лідэру часам неабходна сапраўды быць катэгарычным, не паддавацца нават, калі і большасць не падтрымлівае. Тут псіхалагічная сітуацыя даволі складаная. Але па сваёй сутнасці яна, я сказаў бы, у нас адначасна і добрая, таму што, нягледзячы на той пакручасты, марудны шлях, па якім развіваецца наш дэмакратычны рух, мы ўсё ж такі здолелі пазбегнуць шмат якіх памылак, што бачныя і на Усходзе, і на Поўдні, і на Поўначы нават. Калі нам удасца і надалей працягваць такую лінію, то некалі будуць добрыя вынікі. Галоўнае тут — дэмакратам не перасварыцца па дробязях, не разысціся з-за нейкіх асабістых крыўдаў.

**— Яшчэ крыху пра асабістыя якасці лідэраў. Першапачатковае перакананне ў Пазьняка можа мяняцца пад уплывам аргументацыі іншых? Другімі словамі, ён здольны прыслухоўвацца да сваіх паплечнікаў ці лічыць: я самы разумны, мне больш за каго давяраюць людзі, то і слухайце толькі маё?**

— У працэсе абмеркавання, калі ўзнікаюць раптам псіхалагічныя, ужываючы спартыўную тэрміналогію, клінчы...

**— Счэпкі, якія бессэнсоўна вымотваюць?**

— Так. Мы тады проста адкладваем гэтае пытанне, каб вярнуцца да яго потым. І я магу прывесці дзесяткі прыкладаў, калі першапачатковыя пазіцыі мяняліся, пераглядаліся. У гэтым таксама ягоная сіла. Пазьняк не з'яўляецца ўпартым бессэнсоўна. Паступова мы выпрацавалі цалкам цывілізаваную форму ўзаемаадносін, і Зянон не тое што знешне пагаджаўся, а нармальна рэалізоўваў сумесныя напрацоўкі. Мы, напрыклад, прыйшлі да такой узважанай высновы, што са спецыялістамі з ліку былой камуністычнай наменклатуры, калі яны не маюць ніякіх абцяжарваючых грахоў перад народам, канешне ж неабходна нармальна супрацоўнічаць на роўных. Няма ў нас і, так бы мовіць, нейкай «класавай» помслівасці. Не, мы лічым, што кампартыя была такой арганізацыяй, куды людзі часта вымушаны былі ісці. Вы ж бачыце: у Вячоркі бацька быў высокі наменклатуршчык, у Навумчыка — наменклатуршчык. Але ж гэта не стала перашкодай, каб гэтыя хлопцы, вельмі здольныя, не працавалі ў Фронце, не ўваходзілі ў самую яго кіруючую эліту.

**— Наперадзе выбарчая барацьба. Ці асэнсаваны папярэднія ўрокі — кампаніі за прэзідэнцтва? Падалося, некаторыя тагачасныя тэлевізійныя выступленні Зянона Станіслававіча грашылі лекцыйнасцю.**

— У масавай свядомасці тэлевізійны партрэт Пазняка напрацоўваўся ягонымі праціўнікамі гадамі. Так, пастаянна выбіраліся тыя моманты, дзе Зянон выглядаў нейкай апантанай асобай, якая не слухае нікога, акрамя самога сябе. А вось на сустрэчах людзі бачаць яго зусім іншым — яны хочуць, каб ён гаварыў. Я яму нават некалькі разоў раіў: «Гавары карацей». А ён выступае гадзіну, а потым людзі яму паўтары гадзіны задаюць пытанні ў атмасферы ўзаемнага паразумення. Калі ён жартуе — ахвотна смяюцца. А Зянон валодае выдатна гумарам. Але было б няпраўдай сказаць, што ён зусім чужы рыгарызму, дыдактычнасці. Бо многія ідэі даводзілася ўдоўбліваць у галовы слухачам. І гэта было не надта паспяхова, пакуль само жыццё не падмацавала ягоныя выказванні. Вы ж памятаеце, які гвалт стаяў пасля ягонага артыкула пра Леніна. Ну дык зараз па расійскаму тэлебачанню паказваюць куды больш негатыў пра галоўнага бальшавіка, і гэта нікога не шакіруе. Да таго ж прэзідэнцкая выбарчая кампанія была вельмі хуткасная, а некаторыя тэлевыступленні даводзілася рыхтаваць у самы апошні момант перад выхадам у эфір. Дзве з чатырох тэлеперадач да таго ж пайшлі на выкладанне эканамічнай праграмы. Можа, гэта і сапраўды інтэлігенцкі недахоп, што мы сур'ёзна імкнуліся растлумачыць сутнасць той палітыкі, якая прапануецца нашым кандыдатам у прэзідэнты, а не рынуліся стрымгалоў заваёўваць галасы папулісцкімі абяцаннямі, якія ніхто з самага пачатку не збіраўся выконваць. А Зянон, калі нешта абяцае, — робіць абавязкова.

**— Складаная рэч — палітыка.**

— Але адно няправільна гаварыць, як некаторыя сёння, што яна абавязкова брудная. Брудная яна толькі тады, калі палітыкі брудныя. Гэта тое самае, што папракаць вяроўку за тое, што на ёй нехта павесіўся. Палітыка можа быць і маральнай, і разумнай, і інтэлігентнай. Мы якраз і імкнёмся рабіць палітыку не папулісцкую, а маральную. Гэта адзін з нашых галоўных прынцыпаў. Фронт у адрозненне ад некаторых асоб, што прагнуць улады дзеля ўласных патрэб, не хоча ісці на грубы падман народа, абражаючы ягоную годнасць. Не можна, паставіўшы мэту адраджэння духоўнасці народа, ягонай культуры, дзейнічаць непрыгожымі, брутальнымі метадамі. Лепш дасягнуць перамогі паступова, цяжкімі намаганнямі, але калі людзі цалкам зразумеюць і падтрымаюць менавіта такую палітыку. Тады людзі не скажуць праз месяц ці там праз сто дзён, што чакалі іншага, абяцанага. Мы не дамагаліся прыхільнікаў за кошт скандалаў і пустых абяцанак.

**— Юрый Віктаравіч, акрамя палітыкі, ці застаюцца сілы на фізіку?**

— Я па-ранейшаму працую ў галіне фізічнай оптыкі, загадваю лабараторыяй. Можна сказаць, што мая спецыяльнасць — оптыка полымяў. Нядаўна засакрэчаная тэма. Мы вывучалі для ваенна-прамысловага комплексу характарыстыкі ўсялякіх незвычайных полымяў. Напрыклад факелаў ракет, самалётаў і іншых тэхнічных канструкцый, якія знаходзяцца на ўзбраенні арміі. Усё гэта неабходна для развіцця оптыка-электронных прыбораў. Працавалі дзеля стварэння нацыянальнай сістэмы папярэджання ракетных удараў. Цяпер праца цалкам спынілася. Беларускаму войску навука не патрэбна — так сёння лічаць нашы дзяржаўныя і вайсковыя кіраўнікі. Я звяртаўся ў адміністрацыю Прэзідэнта, ставіў пытанне аб належным навуковым забеспячэнні Беларускага войска. Пакуль вынікаў ніякіх.

**— Будзем спадзявацца ўсё ж на добрыя перамены. Нядаўна давялося чытаць адказы намесніка прэм'ер-міністра Віктара Ганчара на пытанні чытачоў «Звязды». Ён там згадвае і пра дзейсную падтрымку акадэмічнай навукі, без якой немагчыма эканамічная магутнасць дзяржавы. Жадаем Вам поспехаў і здароўя! Дзякуем, што знайшлі час для гутаркі.**

**Распытвалі Ірына КРЭНЬ і Эрнэст ЯЛУГІН.**

Мікалай КРЫЎКО

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПАЦАЛАВА́ЦЦА** (пацалаваць адзін аднаго, выказваючы сваю любоў, пяшчоту і пад.) *Перакінуўшыся жартлівымі прывітаннямі, сябры абняліся і сардэчна пацалаваліся* (Колас). *Сёстры абняліся, тройчы пацалаваліся* (Арабей), **РАСЦАЛАВА́ЦЦА** (моцна некалькі разоў пацалавацца адзін з другім) *Не адразу пазнаў [Антанюк] Марыну Казюру. А пазнаў – расцалаваўся і... праслязіўся* (Шамякін). *Мама пацалавала мяне, расцалавалася з цёткай Анэтай і залезла ў кузаў калгаснага грузавіка, што ішоў на чыгуначную станцыю* (Хадкевіч), **ЦМО́КНУЦЦА** размоўнае (гучна і хутка пацалавацца) *Слых у мяне – усім бы такі! Яны цмокнуцца – і то чую...* (Баскін), **ПЛЮ́СНУЦЦА** разм.-іранічнае *Плюснуцца са старой знаёмкай.* – *Незакончанае трыванне:* **Цалава́цца, цмо́кацца.**

**ПАЦАЛАВА́ЦЬ** (дакрануцца губамі да каго-, чаго-н., выказваючы сваю любоў, пяшчоту і пад.) *Іван абняў яе [Матрону] моцна, крэпка пацалаваў у свежыя, сакаўныя губы і шырокімі крокамі пусціўся даганяць сяброў* (Колас). *Бацька пацалаваў на развітанне маці і Сашку і застаўся на беразе* (Даніленка), **РАСЦАЛАВА́ЦЬ** (пацалаваць некалькі разоў) *[Ігнась] развітаўся, узяў на рукі чатырохгадовага Васілька, расцалаваў яго* (Лынькоў). *Налівайку хацелася кінуцца да Хрысціны, абняць яе, прыцісніць да грудзей, расцалаваць, але ён сябе стрымліваў* (Гурскі). *За такую пасылку я гатоў быў расцалаваць дзядзьку Стася, калі б ён апынуўся побач* (Парахневіч), **ЦМО́КНУЦЬ** разм. (гучна і хутка пацалаваць) – *Я кахаю цябе, – зноў заляманатаваў Васька. – Ты для мяне адзіная! – І, ускочыўшы, цмокнуў яе ў вусны* (Баскін). *Бацька прытуліў Кастуся, цмокнуў у шчаку і палез у кішэню* (С.Александровіч), **ПЛЮ́СНУЦЬ** разм.-іран. *Пайшоў Янка да папа. – Бацюшка, – плюснуў яму ў руку, – парай, што рабіць: як на свеце жыць?* (Якімовіч). – *Незак.:* **Цалава́ць, расцало́ўваць, плю́скаць.**

**ПАЦЕ́ПВАЦЦА** (сціскацца ўсім целам ад холаду, дрыжыкаў і пад.) *У засені было халаднавата. Віцька пацепваўся, стараўся як мага глыбей засунуць у кішэні рукі* (Асіпенка). *[Люда], мусіць, па звычцы, адкідвала час ад часу са скроні пасму валасоў і пацепвалася ад вячэрняй свежасці* (Пташнікаў), **СЦЕ́ПАЦЦА** *Але тут ва ўсім інакшы пах. Колер пераважна бірузовы, Сцены і падлога ў дыванах... Сцепаюся я ў сваіх кірзовых* (Шушкевіч). *А яно [цяля] стаяла, хістаючыся на тонкіх, дрыготкіх нагах, і сцепалася* (Маеўская), **КУ́РЧЫЦЦА** *Некалькі начэй мы курчыліся там ад холаду, моклі ў бліндажах, куды зацякала ледзяная вада, а далей – ззяла вечная бель альпійскіх вяршынь з пухлымі аблокамі над імі* (Хомчанка). *Адзін руляві стаяў ля штурвала і курчыўся, калі халодны струмень трапляў з шапкі за каўнер* (Жыткоў).

1. **ПАЦЕ́ЦЬ** (выдзяляць пот, пакрывацца потам) *Шаройка моцна пацеў і раз-пораз выціраў твар вялікай бруднай хусткай* (Шамякін). *Кастусь параіў.. [Алесю]: – Скінь ватоўку, менш будзеш пацець* (Ваданосаў), **АБЛІВА́ЦЦА ПО́ТАМ** узмацняльнае *Парыла так нясцерпна, што салдаты і капітан абліваліся потам* (Караткевіч). *Уначы мерзлі, днём абліваліся потам, хоць працавалі ў адных трусах* (Карпаў), **ПРЭЦЬ** разм. *Цыганы прэлі пад сваімі паласатымі коўдрамі, і я пазайздросціў людзям* (Чыгрынаў). *У цеснай цукерні, у духаце, прэлі адныя мужчыны і з імі маладая смуглявая, з сінімі вочкамі маладзіца* (Адамчык), **ПА́РЫЦЦА** разм. *Баравінчане не надта горача выказваліся за пабудову і не надта горача супярэчылі, хоць гадзіны дзве парыліся ў кажухах* (Сташэўскі). *Яму, шафёру, не паўтары гадзіны, а на працягу рабочага дня даводзіцца парыцца ў кабіне* (Ярашэвіч). – *Параўнайце:* **Спацець.**

2. **ПАЦЕ́ЦЬ** (пра паверхню чаго-н.: пакрывацца вільготным налётам) *Пасля дажджу пацела, Дымілася зямля* (Калачынскі). *Ізноў пацеюць круглыя узгоркі, На сонцы спіны свае прыгрэўшы* (Свірка). *Без работы яна пацее і ржавее* («Загадкі»; адгадка – сякера). *Быў ранак, пацелі далі [у вобразным ужыванні]. Наўкол сланечнікі палалі* (Смагаровіч), **СЛЯЗІЦЦА** *З сонцам Тчэ туман валокны, Дык чаго слязяцца вокны?* (Калачынскі). *Слязіцца, смолкаю пацее Сцяна ў паўдзённы санцапёк* (Бялевіч), **ПЛА́КАЦЬ** разм. *Вокны плакалі, дожд сек па шыбах з мяккім шапатлівым шумам, хмары чарнелі* (Хомчанка). *Шыбы ў кроплях. Мокра. Мама кажа: – Плачуць вокны. Дзед зірнуў, І ён зазначыў: – Праўда, Нешта вокны плачуць* (Калачынскі).

**ПАЦЁРТЫ** разм. (пра чалавека: які зведаў у жыцці шмат нягод, многае перажыў, пазнаў) *Пацёрты ў пераплётах жыццёвай нядолі, ён [Пятрусь] чулей за другіх успрыняў сацыялістычныя настроі і разам з Рыгорам увайшоў у Сілцоўскую арганізацыю сацыял-дэмакратаў* (Гартны). – *Мяне здзіўляе, што вы, стары, пацёрты жыццём чалавек, верыце ў лысых склератыкаў ці ў піжоністых кандыдатаў, якім абы дысертацыя ды месца ў горадзе* (Шамякін), **ПАТРАПА́НЫ** разм. *Але варта было яму [Міклашэвічу] праз момант павярнуцца да мяне сваім непрыемна абвялым, густа зморшчаным, шэрага колеру тварам, як стала відаць, што гэта даволі патрапаны жыццём, амаль пажылы чалавек* (Быкаў).

**ПАЦІСНУЦЦА** (пасунуцца, даючы месца каму-н.) *Хлопцы пацісніліся, далі месца. Я прысеў, але піць не стаў, хоць мяне і прымушалі* (Асіпенка). *Практыканты пацісніліся, і Шыковіч сеў за шырмай* (Шамякін), **ПАЦЯСНІ́ЦЦА** *[Сяргей] падышоў да Ярмоленкі, Пятровы і, вітаючыся, сказаў ім, мабыць, нешта смешнае і вясёлае, бо тыя, смеючыся, пацясніліся, далі яму месца на лаўцы* (Сіўцоў). *Чалавек папраўіў на руцэплашч, пазіраючы на пасажыра, ці не здагадаецца той трошкі пацясніцца, каб даць яму месца* (Пальчэўскі). – *Незак.:* **Пацiска́цца, пацясня́цца, цясніцца.**

**ПАЦУ́К** (млекакормячая жывёліна сямейства мышападобных, пераважна з шэрай поўсцю і доўгім хвастом) *Асмялелыя мышы сядзелі на сталах і лавах, пацукі пазвешвалі з паліц нерухомыя хвасты* (Чорны). *Пацук грыз вугал, а за акном узад і ўперад хадзіў вартавы* (Федасеенка), **БАЦ** дыялектнае *Збудаваў я палац, Многа фабрык, мастоў. Сам жа голы, як бац, – Пары дзве рызманоў* (Колас).

*Леанід БУРАК,*
*заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі,*
*доктар філалагічных навук, прафесар*

## а) Бяззлучнікавыя сказы са спалучальнымі часткамі

1. Пры звычайнай інтанацыі спалучальныя часткі бяззлучнікавых сказаў аддзяляюцца пры дапамозе коскі: *Плывуць у небе самалёты, у даль імчацца цягнікі* (П.Глебка). *Залатое жыта зжата, дажынаецца авёс* (К.Буйло). *Вясна мінецца, прыйдзе лета* (Якуб Колас). *Плачуць бярозы кудлатыя, сцелецца сівы туман, шэпча над шэрымі хатамі стрэх саламяных дыван* (А.Звонак).

2. Калі спалучальныя часткі бяззлучнікавага сказа слаба звязаны і інтанацыйна адасоблены адна ад другой, то яны аддзяляюцца пры дапамозе кропкі з коскай: *Дзесьці блізка рагатала сава; маладыя ваўчаняты жаласліва вылі* (Змітрок Бядуля). *Стаяць палкі баравікоў; дрыжыць басок чмяліны* (А.Вялюгін). *Спявалі пеўні; брахалі сабакі; чуліся людскія галасы* (Кузьма Чорны). *Стогнуць пад мурам халодныя таполі; крыліцца ў кветках начніца; плачуцца совы па днеўным прыволлі; вецер калыша званіцай* (Янка Купала).

3. Калі спалучальныя часткі бяззлучнікавага сказа з'яўляюцца развітымі і маюць свае знакі прыпынку, то паміж гэтымі часткамі ставіцца кропка з коскай: *Ціха трапечуцца лісці зялёныя, з ветрыкам мову вядуць; вішні, узняўшыся белай каронаю, быццам дзяўчаты цвітуць* (Якуб Колас).

4. Пры дапамозе кропкі з коскай аддзяляюцца асобныя групы спалучальных частак бяззлучнікавага сказа, якія слаба звязаны па сэнсу і паміж якімі ёсць працяглая паўза: *Замерлі дрэў макушкі, не зварухнецца ліст; пявучай самай птушкі змоўк апошні свіст* (П.Глебка). *Пад ляском начлег распаліў агонь; заяц перабег, путам бразнуў конь* (Янка Купала).

5. Калі спалучальныя часткі бяззлучнікавага сказа суправаджаюцца дадатковым адценнем выніку (часам нечаканага), то паміж імі ставіцца працяжнік: *Мінута – батальён на нагах* (Якуб Колас). *Мгненне – становіцца светла, як днём* (М.Лынькоў). *Хвіліна затрымкі – машына мчыцца далей* (І.Мележ).

УДАКЛАДНІМ

# Знакі прыпынку ў бяззлучнікавых складаных сказах

## б) Бяззлучнікавыя сказы з супастаўляльнымі часткамі

1. Пры звычайным супастаўленні прэдыкатыўныя часткі бяззлучнікавага сказа аддзяляюцца пры дапамозе коскі: *На вакзале стаяць цягнікі, на прыстанку стаяць параходы* (П.Глебка). *Багач ззяе ў пазалоце, мужык бедны мрэ ў бядоце* (Якуб Колас). *Неслі ворагі нам здзек, леглі ворагі навек* (П.Броўка).

2. Пры рэзкім супастаўленні паміж прэдыкатыўнымі часткамі бяззлучнікавага сказа ставіцца працяжнік: *Не сохі і не ветракі пасведчылі аб сіле – мы спадарожніка з рукі, як голуба, пусцілі* (А.Вялюгін). *Міколка агледзеў вагон – няма дзеда* (М.Лынькоў). *Пастукалі ў акно – з хаты ніхто не абазваўся* (Кузьма Чорны).

Калі паміж прэдыкатыўнымі часткамі існуе большая паўза, якая ўзмацняе і лагічна падкрэслівае кантрастнасць супастаўлення, а самі часткі з'яўляюцца развітымі і вызначаюцца аслабленай сувяззю паміж сабой, тады можа ставіцца коска з працяжнікам, напрыклад: *Адны паміралі ў агні-барацьбе, – другія ішлі на падмогу* (П.Трус).

3. Калі супастаўленне суправаджаецца ўмоўна-выніковым адценнем, то прэдыкатыўныя часткі бяззлучнікавага сказа заўсёды аддзяляюцца пры дапамозе працяжніка: *Ён у смех – зямля ў смех* (Змітрок Бядуля). *Мы жывём – жывуць яны!* (Якуб Колас). *Маўчыць бацька – маўчу і я* (Міхась Чарот).

4. Калі супастаўленне афармлена суадноснымі словамі **то не — гэта, то не — то** і інш., то прэдыкатыўныя часткі бяззлучнікавага сказа заўсёды аддзяляюцца пры дапамозе коскі з працяжнікам: *То не першая пароша запарошыла загон, – гэта поле прыхарошыў кучаравы сіні лён* (А.Бялевіч). *То не струны звіняць галасістыя, – зашумела жытцо каласістае* (М.Машара).

5. Калі супастаўляльныя часткі бяззлучнікавага сказа вызначаюцца большай самастойнасцю, а паміж імі існуе працяглая паўза, то гэтыя часткі аддзяляюцца пры дапамозе кропкі з коскай: *На камінку корч палае; каля печы дзед сядзіць* (Якуб Колас). *Над ракою ў спакоі зацвітала каліна; у сяле за ракою вырастала дзяўчына* (Янка Купала).

Культура мовы

# Сверб падладжвання

Дбаючы пра культуру роднай мовы, мы мала звяртаем увагі, як нашы імёны, прозвішчы, геаграфічныя назвы перадаюцца ў іншых мовах.

Мне заўсёды было няўцям, чаму беларускія прозвішчы тыпу *Батура, Сахута, Шчэрба, Лойка, Пархута, Канапелька, Скрыпка, Рылатка, Бачыла, Вярбіла, Налівайка, Карэнда, Хадыка* ў расійскім напісанні павінны мець форму з канцавым *о: Батуро, Сахуто, Щербо, Лойко*... Хіба ж гэта незразумела: пры такім напісанні, пры такой граматычнай падачы гэта зусім два розныя прозвішчы. І чаму гэтыя прозвішчы не могуць быць у расійскай мове ў такой форме, як і ў беларускай — адзін да аднаго? Скажам, прозвішча *Станюта*. Пішам жа мы і па-беларуску і па-расійску аднолькава. Прыгледзьцеся ўважліва — і вы пераканаецеся: у саміх расійцаў няма гэтага свербу: з расійскага прозвішча зрабіць яшчэ больш расійскае. У іх *Глінка* — гэта *Глинка, Дайнека* — гэта *Дайнека*. «Мои товарищи по Вхутемасу — Дайнека, Вильямс, Гончаров». (С.Образцов. Советская культура. 5.VII.1986).

Гэта толькі ў нас на Беларусі дазваляецца з аднаго прозвішча ствараць другое.

Яшчэ прыклад. У нашай мове шмат прозвішчаў тыпу *Бірыла, Гаціла, Гасціла, Пола, Шаціла*. Прозвішчы як прозвішчы, мілагучныя, цікавыя этымалагічна. Але вось яны трапляюць у рускамоўную стыхію, і тут адбываюцца метамарфозы: *Бірыла* пераўтвараецца ў *Бирилло, Шаціла* — у *Шатилло, Пола* — у *Полло, Таміла* — у *Томилло*. Адкуль у беларускіх прозвішчах з'яўляецца двайное «л» — гэта ніякага розуму не дабяру. Можа гэта жаданне быць падобным на італьянцаў? Ці то гэтага патрабуюць законы, правілы расійскай мовы? Ды не — у Расіі такіх і прозвішчаў няма. Расійская мова прыняла б гэтыя прозвішчы і ў такім напісанні, у такой форме — *Бирила, Шацила, Гацила, Гасцила, Тамила*. Але ёй такога не прапаноўвалі...

Паміж іншым, праз два *л* пішацца ў расійскай мове слова *горилла*. Ці не гэтаму правілу ўпадабляюцца і беларускія прозвішчы пры расійскамоўным напісанні?

Невядома чаму нават прозвішча *Субат* у беларускім расійскамоўным друку пішуць праз два *б* — *Суббот* (ВМ,10.IV.94). Чаму? Незразумела. Але затое блізкае, сугучнае прозвішча *Субач* у такіх жа тэкстах чамусьці ўжо з адным *б* — *Субач* («Народная газета», 19.VII.91).

Не зусім зразумела, чаму нашы прозвішчы тыпу *Цікоцкі, Цяпінскі, Ціхіня, Цішчанка, Цімохін, Ціхановіч, Цітавец* абавязкова перадаюць праз *т*. Тое ж робяць і з геаграфічнымі назвамі. Хіба ж у расійскай мове няма гука *ц*? Ёсць, і шмат прозвішчаў і слоў. Не, у нас жа абавязкова гэта перакруцяць. Хіба ж напісанне *Цікоцкі* і *Цикоцки* не эквівалентны?! Дык неабавязкова *Цікоцкага* ператварыць у *Тикоцкого, Цяпінскага* — у *Тяпинского, Ціхіню* — у *Тихиню, Цітаўца* — у *Титовца, Доцішкі* — у *Дотишки, Цимкавічы* — у *Тимковичи, Друць* — у *Друть, Уць* — у *Уть, Гасцілавічы* — у *Гостиловичи, Суцін* — у *Сутин*...

А хіба ж іх нельга і ў расійскамоўнай стыхіі захоўваць так, як яны гучаць і па-беларуску, толькі ў расійскай графіцы? Праўда, нашу пад Менскам Зацень пішуць і па-расейску *Зацень*. Нешта нашых пісараў тут стрымлівае, і пішуць яны згаданую геаграфічную назву і па-расейску праз «ц» — *Зацень*, Што, вядома, заканамерна і пахвальна. Вось гэтага правіла трэба трымацца скрозь і ўсюды паслядоўна. У газеце «Рэспубліка» за 15.VIII.94 чытаем: *пинчанин Цишковский*... Лічу, як раз вось такога напісання прозвішчаў і геаграфічных назваў і павінен трымацца рускамоўны друк на Беларусі. А будзем мы так пісаць, гэтак жа будзе нашы прозвішчы і геаграфічныя назвы перадаваць і расейскі друк. Здаецца, і прозвішча кампазітара Цітовіча перадаецца па-расейску эквівалентна, без зменаў, праз *ц*.

**Ул.СОДАЛЬ.**

*Люляў двух Міцкевічаў Нёман*

Уладзімір **МАРХЕЛЬ**

# АДАМ І КАСТУСЬ

## Дзве ментальнасці аднаго архетыпу

«Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча і «Новая зямля» Канстанціна Міцкевіча знаходзяцца ў такім прастора-часавым суадстаянні, якое было прадвызначана іх узаемазалежнасцю: «Пан Тадэвуш» напісаны з прадчуваннем «Новай зямлі», а «Новая зямля» паўстала з улікам наяўнасці «Пана Тадэвуша».

Гэтую ўзаемазалежнасць немагчыма ўбачыць па-за кантэкстам беларускай гісторыі і тых духоўна-культурных працэсаў, якія абумоўлівалі ўзнікненне вялікіх твораў абодвух Міцкевічаў, твораў, генетычна палучаных. «Пан Тадэвуш» і «Новая зямля» з'явіліся ў выніку пераадолення паэтамі настальгічнага стану, калі кожны з іх толькі думкамі мог залятаць у родны край. Успамін вяртае Адама Міцкевіча да шляхецкага жыцця на радзіме, а Якуба Коласа — да сялянска-леснікоўскага. Аддаленыя адзін ад аднаго цэлым стагоддзем, але набліжаныя гістарычнымі пераломамі ў лёсе народа і краіны, успаміны паэтаў узнаўляюць два сацыяльна-гістарычныя крылы аднаго народа, архетып якога, па сутнасці, выяўляецца праз дзве ментальнасці.

Так павярнуць ці паставіць праблему ў дачыненні да ўзаемасувязі «Пана Тадэвуша» і «Новай зямлі» можна пры ўмове, калі пераадолець інерцыю парадаксальнага ўспрыняцця і тлумачэння найперш беларускімі даследчыкамі зместу выдатнага твора Адама Міцкевіча.

Уладзімір Казбярук, напрыклад, выступаючы ў польскім друку ў 1991 годзе (зборнік «Даследаванні з расійскай і славянскай філалогіі»), сцвярджае, што «Новая зямля» і «Пан Тадэвуш» — «два натхнёныя гімны ў гонар наднёманскага краю», і тут жа падкрэслівае, што гэта «дзве мастацкія энцыклапедыі жыцця народаў», чым, мякка кажучы, ставіць сябе ў двухсэнсоўнае становішча, бо не ў адпаведнасці з гістарычнай праўдаю, а паводле тэндэнцыйна арыентаванай традыцыі засяляе прынёманскі край двума народамі. Пераважная большасць герояў «Пана Тадэвуша» — тутэйшыя людзі, не перасяленцы, а мясцовыя насельнікі, не польская, а спаланізаваная беларуская шляхта, прадстаўнікі якое ў паэме вялікага навагрудчаніна пачуваюць сябе, як і сам паэт, і літвінамі і палякамі адначасна.

Уважлівае знаёмства са зместам «Пана Тадэвуша» адкрывае вочы на тое, што гэтыя паняцці не зусім узаемазамяняльныя, што поўнай ідэнтыфікацыі ў іх няма. Літвін — гэта паняцце гістарычна-родавага парадку, выпрацаванае і засвоенае праз адчуванне этнагістарычнага адзінства ці лучнасці. Тэрмін жа «паляк» Міцкевічавы героі атаясамліваюць не так з нацыянальнай, як з дзяржаўнай прыналежнасцю і ўжываюць не толькі з гонарам, які дае надзею на аднаўленне падзеленай дзяржавы, але і з болем, які гіпертрафіруе гэтую надзею. Іншая справа, што Рэч Паспалітая атаясамляецца ў іх свядомасці з Польшчаю. Чаму, спытаемся, не з Вялікім Княствам Літоўскім? Таму што не ад яго зыходзіла асіміляцыя.

Аднак тлумачэнні ў гэтым кірунку ляжаць за межамі тэксту «Пана Тадэвуша» і вымагаюць спецыяльнага даследавання грамадска-палітычных працэсаў ды выяўлення псіхалагічных прыёмаў настойлівай падмены паняццяў і ўяўленняў. Таму абмяжуемся канстатацыяй таго, што ўяўленні герояў «Пана Тадэвуша» пра Рэч Паспалітую як польскую дзяржаву складваюцца не на старонках паэмы, што яны тут ужо аформленыя і, падначальваючы сабе пачуццё мясцовага, лакальнага патрыятызму, служаць сцвярджэнню культу польскай дзяржаўнасці. Між тым у «Новай зямлі» не толькі культу, але і ідэі дзяржаўнасці, здаецца, няма, прынамсі, яна не закранаецца так адкрыта, як у «Пане Тадэвушы». Ёсць тут глыбокае адчуванне героямі паэмы роднага кута і краю, яснае ўсведамленне імі ўласнай і роднай зямлі, што можа быць толькі адпраўным пунктам для апасродкаваных здагадак. Праблема дзяржаўнасці ў Коласавай паэме не ставіцца, бо перад героямі «Новай зямлі», як і перад усім беларускім сялянствам, яна не стаяла.

Селянін, выключаны з грамадскага жыцця і сацыяльна абяздолены прыгонніцтвам, а таксама адлучаны ад уласнай гісторыі, доўга яшчэ і пасля скасавання прыгону заставаўся індыферэнтным да пытанняў дзяржаўнасці. Шляхціц жа, нават той, які не пераўзыходзіў селяніна маёмасцю, быў параўнальна свабодны ў грамадскім выбары і так ці інакш удзельнічаў у вырашэнні дзяржаўных пытанняў.

Зрэшты, самы прадстаўнічы ў Вялікім Княстве шляхечы клас быў носьбітам самой ідэі дзяржаўнасці, а таксама сімвалам і абаронцам дзяржавы. Таму тэма разабранай ці забранай дзяржавы не толькі праходзіць праз увесь тэкст паэмы Адама Міцкевіча, яна ў падтэксце «Пана Тадэвуша», а тым болей у такіх суправаджальных і неад'емных атрыбутах дзяржавы, як *айчына, край, краіна.* Яны болей частыя ў вуснах Міцкевічавых герояў, чым слова *зямля.* Аднак гэта, зразумела, ніякім чынам не азначае, быццам лучнасць са сваёй зямлёю ў беларускай шляхты парушана, быццам інстытут дзяржавы ў іх свядомасці выцясняў родную зямлю — тую прастору, з якой звязана іх фізічнае існаванне, першыя крокі самавызначэння і памяць традыцый. Таму змест «Пана Тадэвуша» нібы абвяргае выказванне С.Здзярскага, «што амаль немагчымай рэччу, можа, было ўвесці народны элемент у гэтую паэму, якая мелася раскрыць жыццё засцянковай шляхты з усёй адпаведнасцю».

Дастаткова нагадаць, напрыклад, што астраномія Войскага (адзін з герояў паэмы «Пан Тадэвуш» — Рэд.) грунтуецца не толькі на старазапаветных традыцыях, але і на паданнях і вераваннях беларусаў, або ўспомніць сцэну паляванння на мядзведзя, «паводзіны» якога пасля стрэлу ксяндза Робака ўзноўлены ў адпаведнасці з народнымі ўяўленнямі, ці схільнасць герояў паэмы да ўжывання шляхецкіх і сялянскіх выслоўяў, да пазычання выразаў з пісьмовай літаратуры і вуснай традыцыі, а таксама аўтарскія рэмінісцэнцыі беларускай мовы (*незабудка, кумпяк, маруха, шурпаты, цівун* і інш.). Як зазначае С.Свірка, народнасць «Пана Тадэвуша» не выступае на першы план, як у «Баладах і рамансах» ці ў «Дзядах», і не арганізуе нават асобнага тэматычнага матыву, «але напаўняе сабою ўсю эпапею і стварае нейкую дзіўную атмасферу свойскасці, атмасферу з'яў блізкіх і добра вядомых». Далучаючыся да гэтага выказвання польскага даследчыка, са свайго боку зазначу, што «Пан Тадэвуш» і «Новая зямля» ў беларускага чытача, прынамсі ў мяне, выклікаюць уражанне не тое каб вядомай, але пазнаванай роднасці ці свойскасці — праз вобразы герояў і іх стыль мыслення, праз вобразы радзімы і яе ўспрыманне аўтарамі.

Ці не ў адпаведнасці з нашым уяўленнем усплываюць малюнкі роднага ўлоння ў памяці Адама Міцкевіча:

*Тым часам пераносьмой дух засмуаваны*
*Ў зялёны лес, на сенажаці, на паляны,*
*Што над блакітным Нёмнам скрозь парасціланы,*
*Да маляваных ніў, дзе жыта серабрыцца,*
*І залачоная калышацца пшаніца,*
*Дзе грэчка, быццам снег, свірэпка, як бурштыны*
*І дзяцельнік гарыць румянцамі дзяўчыны...*

(Пераклад П.Бітэля)

Ці не ў сугуччы з нашым бачаннем вяртаецца да родных краявідаў успамін Якуба Коласа:

*Я бачу роўныя пакаты*
*Палёў за Нёмнам і іх шаты —*
*Аўсоў палоскі, лавы жыта,*
*Што морам золата разліта;*
*І грэчак белыя абрусы...*

І якія яны тут самастойна-падобныя — два нашыя Міцкевічы, наканаваныя беларусам песняры братоў, разведзеных падступнай асіміляцыяй і супрацьпастаўленых рэвалюцыйнай псіхалогіяй, але пяднаных нанова Боскай воляю ў прозвішчы **Міцкевіч**.

*З гісторыі слоў*

Іван **Яшкін**

# ШАЛОМ

О, Руская зямля! уже за шеломянем еси!
*«Слова пра паход Ігараў»*

*Шалом* — 'узгорак, горка'.
*Шаламы* — вёска.

Назва *шалом* у якасці геаграфічных найменняў населеных пунктаў займае вялікі арэал на ўсходнеславянскай тэрыторыі. Вядомае сяло *Шоломичи* Пінскага павета, да 1524 г. (М.Любавский. Областное деление и местное управление Литовско-русского государства ко времени первого литовского статута (1529). М., 1884, стар.196), слабада *Шелома* на Старадубшчыне (узнікла пазней 1669) (А.С.Дембовецкий. Опыт описания Могилёвской губ., кн.1. Могилёв, 1882, стар.654), там жа слабада *Шеломы* (1695) і яна ж *Шоломин* (1702) (Ал.Лазаревский. Описание старой Малороссии. Полк Стародубский. т.1. Киев, 1888, стар.454; М.И.Лилеев, Из истории раскола на Ветке и в Стародубье XVII—XVIII вв. вып.1. Киев, 1895, стар.34), в.*Шоломеи* або *Шаломеи* (да 1847) у Расохскай воласці Рагачоўскага павета (Список населённых мест Могилёвской губ., Могилёв, 1910), фальварак *Шаломея* Чачэрскага прыхода (1872 — Нацыянальны архіў РБ, ф.2384, воп.1), *Шеломы* пад Навазыбкавым (Большой всемирный настольный атлас Маркса. СПб., 1910, № 24), *Шеламово* Чарнігаўскай губерні (С.К.Кузнецов. Русская историческая география. вып.1, М8. 1910, стар.133), *Шеломово* Дубакрайскай вол. Гарадоцкага павета Віцебскай губ. (Список населённых мест Витебской губ. Витебск, 1906), а таксама сяло *Шеломя* Архангельскай вобласці (Э. і В.Мурзаевы. Словарь местных географических терминов. М., 1959).

Дакладна час узнікнення вёскі Шаламы Слаўгарадскага р-на пакуль не ўдалося выявіць. Упершыню вёска *Шаламы 'Siolo Szołomy'* упамінаецца ў 1675 г. у спісе пазямельных падаткаў (чыншаў) з каралеўскай Прапойскай воласці (якой яна лічылася з 1511 г.) Вялікага Княства Літоўскага. (Нацыянальны архіў РБ, ф.694, воп. № 4). У в.Шаламы было тады тры двары і 3 1/3 валокі ворнай зямлі. Пералічаны прозвішчы гаспадароў: Кандрат Паддубны, Мікіта Паддубны і Сцяпан Сарочын. (У Прапойску жыў у час Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі актывіст Сарокін.) У 1681 г. у вёсцы таксама было тры двары: Кандрат Паддубны — 1 двор, Мікіта Паддубны — 2 двары. Зямлі ў Шаламах у 1681 годзе было ўжо 12 валок, а з іх т.зв. пустых было 11 валок (Нацыянальны архіў РБ, ф. № 694, воп. № 4). На рэчцы *Пішчані* (*rzeczce Pisczani*), якая працякала каля в.Шаламы з поўдня (і цяпер гэта частка вёскі называецца Шаламы), у 1681 г. быў млын на адно кола, а таксама рыбная тоня на возеры *Пішчаным* (НА РБ, ф. 694, воп. 4). Пасля 1772 г. у в.*Шаламы* было ўжо 17 двароў і г.д. Паводле архіўных матэрыялаў за 1675 г., нацыянальны склад насельніцтва Прапойскай воласці быў аднастайны, там пражывалі мясцовыя людзі праваслаўнага веравызнання, беларусы. У старых крыніцах сустракаем назвы гэтай вёскі: *Шеломы* — (1778 г. — Геометрическая карта Могилёвского наместничества), слабада Шолобуда — (пасля 1779 г.; цяпер вуліца Слабада, частка в.*Шаламы* — Цэнтральны дзяржаўны архіў старажытных актаў г.Масква, ф. 1355, Магілёўская губ., № 9, л. 143), *Шеломы, Шоломахи, Шоломы* (1884 г. — А.С.Дембовецкий. Опыт описания Могилёвской губ.), *Шеломы* (1910 г. — Список населённых мест Могилёвской губ. Могилёв, 1910, стар. 31), *Шаламы* (1928 г. — Магілёўскі абласны архіў, справа 7176).

Паводле аднаго мясцовага падання, назва вёскі Шаламы паходзіць ад назвы рэльефу мясцовасці. Карэнны жыхар суседняй в.Урэчча Іваноў Ціт (80 гадоў, 1957 г.) паведаміў: *«Шаламы называецца таго так, што тут шаламкі, горы, узгоркі».* Вёска размешчана на ўзгорку ў круглай упадзіне паміж больш высокіх гравійных узгоркаў. Назва *шелом* са значэннем 'узгорак', 'холм' сустракаецца ў «Слове аб палку Ігаравым». Вучоныя мяркуюць, што *шалом* з'яўляецца праславянскім словам, якое ўзыходзіць, які прагерманская форма, да індаеўрапейскага кораня *'k'el 'шлем' (В.В.Мартынов, Славянско-германское лексическое взаимодействие древнейшей поры. Менск, 1963).

Паводле другога мясцовага падання, назва вёскі *Шаламы* звязана са значэннем 'шум'. Расказваюць, што калі прыкласці вуха ў летні поўдзень да мясцовых гор, гравійных узгоркаў, то абавязкова пачуеш там шум, звон, спевы, якія, быццам, чуюцца ад таго часу, як тут праваліліся калісьці гарады разам з народам, цэрквамі. На гэтых гарах (паводле падання) зрэдку з'яўляюцца «дастойным» людзям вараныя жарабцы, прыгажуні дзяўчыны. Яны «выходзяць» з гары і просяць чалавечай мовай, каб гэтыя дужыя, сумленныя і чыстыя ў маральных адносінах мясцовыя людзі прыўзнялі цяжкую «*юшку*-накрыўку» на гары, і тады адтуль хлыне вада моцным патокам і «выйдуць» гарады і людзі. Дастойная чалавека конь абяцае абавязкова вынесці на сабе і выратаваць ад вады. Падобныя паданні ёсць у паўночных народаў Скандынавіі.

А яшчэ гавораць, што назва в.*Шаламы* паходзіць ад яўрэйскага імя *Шолам*. Нібыта нейкі яўрэй *Шолам* і быў яе першым заснавальнікам. Такое тлумачэнне пярэчыць гістарычным фактам. (У час першага запісу в.Шаламы (1675 г.) толькі ў Прапойску быў адзін двор яўрэя Меера, адзіны на ўсю воласць.)

Ды ўсё ж гэтае меркаванне было адной з прычын перайменавання (у 1965 г.) вёскі Шаламы ў Чырвоны Усход.

У 1939 г. са сселеных навакольных хутароў утварылася на поўначы новая вёска Шаламы, якую сталі называць тады *Новыя Шаламы* (а старую вёску *Старыя Шаламы*), а таксама па назве іхняга калгаса «XVII партз'езд» або *Семнаццаты*. Пасля ўзбуйнення калгасаў замест назвы «Барэц» (у в.Ст.Шаламы) пашырылі назву «XVII партз'езд» на дзве вёскі. Так узніклі дзве назвы для двух населеных пунктаў — в.Чырвоны Усход, або Шаламы Першыя (вусная назва) і в.Шаламы Другія, або Семнаццаты (вусная назва). Вёска Чырвоны Усход з'яўляецца цэнтральнай сядзібай калгаса «XVII партз'езд». Толькі ў афіцыйных паперах і ў выбарчых спісах ужываецца назва Чырвоны Усход, а ў абыходжанні, у перапісцы бытуе выключна назва Шаламы.

Назва Шаламы з'яўляецца рэдкім старажытным помнікам усходнеславянскай гісторыі і культуры. Мясцовыя жыхары шануюць гэтую назву і просяць Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь (Тапанімічную камісію) вярнуць ім яе, перайменаваць Чырвоны Усход у Шаламы або Старыя Шаламы. Ад яе ўжо ўтварыліся прыметнікі Шаламоўская васьмігадовая школа, Шаламоўскі сельмаг, а таксама назвы жыхароў *шаламовец* (мужчына), *шаламоўка* (жанчына), *шаламоўцы* (мн.лік).

Вам, школьнікі!

# Сусветная літаратура ў школе

## IX клас

## Андрэ МАРУА

(1885—1967)

*Андрэ Маруа (Maurois; сапраўдныя імя і прозвішча — Эміль Герцаг) — вядомы французскі празаік нашага стагоддзя. Нарадзіўся ў Эльбёфе (Нармандыя) у сям'і прамыслоўца. Скончыў Руанскі ліцэй, нейкі час вывучаў літаратуру ва універсітэце, потым працаваў на бацькавай тэкстыльнай фабрыцы. З 1925 года прафесійна займаўся літаратурнай творчасцю, жывучы то ў Нэйі, то ў Перыгоры. У 1938 годзе быў абраны членам Французскай Акадэміі. У 1940 годзе эміграваў у ЗША, удзельнічаў у якасці капітана амерыканскай арміі ў баявых дзеяннях Другой сусветнай вайны. У 1946 годзе вярнуўся ў Парыж. Памёр у гарадку Нэйі-на-Сене.*

*Андрэ Маруа — аўтар шырокавядомых раманаў, мастацкіх біяграфій Дж.Г.Байрана, П.Б.Шэлі, В.Гюго, трох Дзюма, А.Бальзака, Жорж Санд, І.Тургенева ды іншых пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў. Пяру Андрэ Маруа належаць таксама тры зборнікі навел: «Заўсёды здараецца нечаканае» (1943), «Абед пад каштанамі» (1951) і «Сола для фартэпіяна» (1960).*

*На беларускай мове навелы А.Маруа выходзілі асобным выданнем у перакладзе Ю.Гаўрука пад назвай «Падарожжа ў нябыт і яшчэ 24 навелы» (Мн.: Мастацкая літаратура, 1974)*

**ЛІТАРАТУРА:**

Гаўрук Ю. Чарадзей слова // Маруа А. Падарожжа ў нябыт і яшчэ 24 навелы. — Мн.: Маст.літаратура, 1974. С. 3—4.

Андреев Л.Г. Об А.Моруа // История французской литературы. — М.: Высшая школа, 1987. С. 470—471.

# ПАКАРАННЕ ЗОЛАТАМ

## («Пракляцце залатога цяльца»)

Я ўгледзеў, увайшоўшы ў нью-йоркскі рэстаран «Залатая змяя», дзе звычайна абедаў, за першым сталом невялічкага дзядка, які еў вялізны крывавы біфштэкс. Я звярнуў увагу на свежае мяса, вельмі рэдкае ў той час, і тонкі засмучаны твар старога. Напэўна, я яго калісьці ведаў, у Парыжы ці ў іншым месцы. Уладкаваўшыся, я паклікаў гаспадара, бойкага і спрытнага перыгорца, які здолеў з гэтага цеснага падвальчыка зрабіць прытулак для гурманаў:

— Скажыце мне, пан Рабер, кліент, што направа ад дзвярэй, француз, я не памыліўся?

— Каторы? Той, што адзін сядзіць?.. Гэта пан Бурдак. Ён тут бывае кожны дзень.

— Бурдак? Прамысловец? Ну так, я цяпер пазнаю. Я ніколі не бачыў яго ў вас.

— Бо ён прыходзіць, як правіла, раней за ўсіх. Чалавек гэты не любіць кампаніі.

Гаспадар нахіліўся да мяне і ціха прамовіў:

— Дзівакі яны, ведаеце, гэты пан і яго жонка... Нейкія не такія, як людзі. Ён заўсёды снедае адзін. Ну, добра! Прыходзьце ўвечары а сёмай гадзіне і за абедам вы застанеце яго жонку, таксама адну. Можна падумаць, што яны пазбягаюць адно аднаго. Тым часам адносіны ў іх найлепшыя, жывуць яны разам у атэлі «Дэльмоніка»... Для мяне гэта сям'я — загадка.

— Шэф, рахунак на пятнаццаты, — далажыў афіцыянт.

Пан Рабер адышоў ад мяне, але з галавы маёй усё яшчэ не выходзіла гэта дзіўная пара.

Бурдак... Ну, ясна, я яго сустракаў у Парыжы. Паміж першай і другой вайной яго часта можна было бачыць у драматурга Фабера, які чамусьці сябраваў з ім. Мабыць, таму, што ў абодвух была аднолькавая цяга — надзейна хаваць капіталы, і аднолькавы страх — вылецець з капіталамі ў трубу... Бурдак... Напэўна, яму ўжо каля васьмідзесяці год. Я прыпамінаю, што ў 1923 годзе ён кінуў справы, нажыўшы немалую колькасць мільёнаў.

Тады яго турбавала зніжэнне курсу франка.

— Гэта чорт ведае што! — лямантаваў ён. — Я працаваў сорак год, каб апынуцца голым на вуліцы. Не толькі мая рэнта і мае аблігацыі зараз нічога не варты, нават мае лепшыя акцыі не падымаюцца. Нашы грошы цякуць як вада. Як мы будзем жыць на старасці год?

— Рабіце, як я, — параіў яму Фабер. — Я перавёў усё, што маю, у фунты стэрлінгаў... Самая цвёрдая валюта.

Калі мне давялося бачыць іх зноў гады праз тры ці чатыры, абодва былі збянтэжаныя і разгубленыя. Бурдак паслухаўся Фабера; але тут праз некаторы час Пуанкарэ падняў франк, а фунты стэрлінгаў пакаціліся ўніз. Цяпер Бурдаку не давала спакою думка, як ухаваць свае прыбыткі ад падаткаў, якія няўхільна раслі.

— Вы — дзіця, — навучаў яго Фабер. — Рабіце, як я... Адзіная і самая надзейная валюта — гэта золата... Каб вы ў 1918-м купілі залатыя зліткі, ніхто б не бачыў вашых прыбыткаў, вы б не плацілі падаткаў і сёння разбагацелі б яшчэ больш... Памяняйце на золата ўсё, што ў вас ёсць, і будзеце жыць, як у бога за пазухай.

Бурдак паслухаўся. Ён і яго жонка накупілі золата, дасталі адмысловы куфар і цешыліся тым, што час ад часу, прачыніўшы дзверы ў запаветны куток, маліліся на свайго ідала. Потым гадоў дзесяць яны мне не пападаліся на вочы. Нейк раз у 1937 годзе я іх сустрэў у гандляра карцінамі ў прадмесці Сэнт-Анарэ. Ён — галантны і сумны, яна — рухавая і наіўная, маленькая акуратная бабулька, у чорным шаўковым плашчы з карункавым жабо.

— Вы — мастак, паважаны пане, — звярнуўся ён да мяне, — скажыце, калі ласка, ці можна спадзявацца, што падаражэюць імпрэсіяністы?.. Вы часам не чулі?.. Мне кажуць, што напэўна, але ж яны і так у цане, не дакупішся... Трэба было запасацца імі ў пачатку стагоддзя... Мабыць, самае ідэальнае — дазнацца, якая новая школа заменіць іх, каб набыць карціны зараней, пакуль яны не ўвайшлі ў моду. Але, на жаль, ніхто не дае гарантый... Што за эпоха!.. Нават эксперты нічога не ведаюць! Вы проста не паверыце! Я іх пытаю: «Што цяпер найбольш у ходу?» Яны вагаюцца, дарагі мой, блытаюцца. Адны — кажуць — Утрыло, другія — Пікасо... Але ж гэта ўсім вядома.

— Ну, а як ваша золата? — запытаў я.

— Яно пры мне... пры мне... Дабавілася яшчэ некалькі зліткаў... Але ж урад мае намер рэквізаваць золата, ачысціць прыватныя сейфы... Гэта жахліва!.. Вы мне скажаце: самае разумнае — пераправіць усё за мяжу. Правільна, дарагі мой, правільна... Але куды? Брытанскі ўрад такі ж цвердалобы, як і наш, Галандыя і Швейцарыя — прахадны двор у выпадку вайны... Застаюцца Злучаныя Штаты... Але ж там пры Рузвельце сам долар... Ну, і туды трэба ехаць жыць, каб не рызыкаваць, што калі-небудзь нам перакрыюць дарогу да нашай маёмасці.

Не памятаю, што я тады адказаў. Ва мне падымалася злосць на гэтых старых, што, як смала, чапляліся за свой скарб у той час, як развальвалася цывілізацыя. Выходзячы з галерэі, я развітаўся з імі і назіраў, як яны асцярожна ступалі дробнымі крокамі, абое ў чорным, карэктныя і непрыемныя.

І вось ізноў я сустракаю іх на Лексінгтон-авеню ў рэстаране «Залатая змяя». Што яны рабілі ў час вайны? Якім чынам трапілі ў Нью-Йорк? Мне цікава было даведацца пра гэта і, калі Бурдак устаў, я падышоў да яго і назваў сябе.

— А як жа, як жа!.. Вельмі добра помню, — ажывіўся ён. — Якое шчасце пабачыць вас ізноў, дарагі мой пане! Спадзяюся, вы не адмовіцеся зрабіць нам гонар і прыйсці да нас на шклянку чаю ў атэль «Дэльмоніка». Мая жонка будзе так рада... Жыццё ў нас аднастайнае, англійскай мовы мы не ведаем, ні я, ні яна...

— І вы пражываеце ў Амерыцы пастаянна?

— Іначай нельга. Я вам усё растлумачу. Прыходзьце заўтра а пятай гадзіне.

Я прыняў запрашэнне і з'явіўся ў вызначаны тэрмін. Пані Бурдак была ў тым самым чорным шаўковым плашчы з карункавым жабо, што і ў 1923 годзе, і ў жамчужным кальe. Яна мне здалася занадта змрочнай.

— Мне так нудна! — паскардзілася яна. — У нас усяго два пакоі, ніякіх сяброў... Ах! Ніколі я не думала, што давядзецца канчаць свой век у выгнанні.

— Мадам, хто ж вас прымусіў? — запытаў я. — Наколькі мне вядома, у вас не было асаблівых прычын баяцца немцаў. Я разумею, што вам не хацелася жыць пры іх; аднак па сваёй волі адплываць у чужую краіну, выгнаннікамі, не ведаючы мовы...

— О, немцы тут ні пры чым. Мы прыехалі сюды яшчэ да вайны, — журботна прамовіла яна.

Яе муж падняўся, прачыніў дзверы ў калідор, каб праверыць, ці не падслухоўвае хто, замкнуў іх, потым, вярнуўшыся, сеў і ціха сказаў мне:

— Я вам усё растлумачу. Мы ведаем, што вы чалавек стрыманы, і ахвотна выслухалі б вашу параду. Ёсць у мяне амерыканскі адвакат. Але вы мяне лепш зразумееце... Дык вось... Не ведаю, ці помніце вы, што, як прыйшоў да ўлады Народны фронт, мы палічылі небяспечным трымаць нашы залатыя зліткі ў французскім банку. Нам удалося знайсці спосаб пераправіць іх, надзейна і ўпотай, у Злучаныя Штаты. І, натуральная рэч, мы вырашылі там замацавацца. І не для таго, каб не разлучацца з нашым золатам... а нейк само па сабе... У Нью-Йорку, аднак, у 1938 годзе, мы яго памянялі на долары, бо не верылі (і мелі падставу), што Амерыка дапусціць новую дэвальвацыю. Апроч таго, добра інфармаваныя людзі нам сказалі, што Расія збівае цану на золата, разгарнуўшы ў Сібіры геалагічныя пошукі... Але тут была праблема: у якой форме захоўваць нашы грошы? Рахунак у банку? У папяровых доларах? У акцыях? Калі б мы накупілі амерыканскіх аблігацый, нас бы прымусілі плаціць падаходны падатак, а ён тут вельмі вялікі. І мы ўсё пакінулі ў папяровых доларах.

Я не стрымаўся і перабіў яго:

— Значыцца, каб не плаціць пяцьдзесят працэнтаў падатку, вы гатовы выкінуць на вецер усе сто?

— Тут іншая прычына, — прамовіў ён таямнічым голасам. — Мы прадчувалі, што будзе вайна, а значыцца, рахункі ў банках могуць замарозіць, сейфы ачысціць, тым болей, што мы не з'яўляемся амерыканскімі грамадзянамі... І мы вырашылі трымаць нашы грошы заўсёды пра сабе.

— Пры сабе? — аслупянеў я. — Што вы такое гаворыце?.. Тут, у гасцініцы?

Абое схілілі галовы з усмешкай, потым пераглянуліся, як хітрыя змоўшчыкі.

— Так, — прамовіў ён ледзь чутна. — Так, тут, у гасцініцы. Мы ўсё — долары і трошкі золата — паклалі ў дарожны чамадан. Ён там, у нашай спальні.

Бурдак падняўся, адчыніў суседнія дзверы і, узяўшы мяне за руку, паказаў мне на вялізны чорны чамадан, самы звычайны на выгляд.

— Вось... — прашаптаў ён, як свяшчэннік перад алтаром, і зачыніў дзверы.

— А вы не баіцеся, — запытаў я, — што пра гэту гісторыю са скарбам у чамадане дачуюцца? Якая спакуса для зладзеяў!

— Не, — адказаў ён. — Ніхто гэтага не ведае, апрача нашага адваката... і вас, якому я поўнасцю давяраю... Усё прадугледжана, магу вас запэўніць. Чамадан не прыцягвае ўвагі, як, скажам, куфар. Ніхто не падумае, што там столькі багацця. А галоўнае, мы заўсёды на варце, і ўдзень і ўночы, тут, у пакоі.

— Вы ніколі не выходзіце?

— Разам ніколі! У нас ёсць рэвальвер, у шуфлядзе ў століку каля чамадана. І хто-небудзь з нас абавязкова дзяжурыць. Я хаджу снедаць у французскі рэстаран, дзе мы з вамі спаткаліся. Мая жонка там абедае. Так што чамадан без нагляду не бывае. Вы разумееце?

— Ну, шаноўны пане Бурдак, аднаго я не разумею, чаму вы асудзілі сябе на такое існаванне — мізэрнае, самотнае, як у манастыры?.. Падаткі? А што вам да іх? У вас жа столькі сродкаў, што вы маглі б жыць у раскошы да канца сваіх дзён!

— Справа не ў гэтым, — нахмурыўся ён. — Я не хачу аддаваць ім грошы, прыдбаныя мною ў вялікіх пакутах.

Я паспрабаваў змяніць тэму гутаркі. Бурдак быў адукаваны, нядрэнна разбіраўся ў гісторыі. Мне цікава было паслухаць пра калекцыю аўтографаў, сабраную ім калісьці, але яго жонка, апантаная яшчэ больш, чым ён, павярнула зноў на ранейшае.

— Ёсць адзін чалавек, якога я ўсё ж баюся, — сказала яна прыглушаным голасам, — гэта наш метрдатэль, немец, што прыносіць нам падсняданак. Позірк, які ён кідае часам на гэтыя дзверы, мне страшэнна не падабаецца. Але раніцай мы дома абое. Я думаю, што ў гэты час няма ніякай пагрозы.

І яшчэ мелі клопат — сабаку. У іх быў прыгожы пудзель, на рэдкасць разумны, які заўсёды ляжаў у кутку гасцінай. Але ж тры разы на дзень яго трэба было выпускаць. І яны вадзілі яго напераменку.

Я развітаўся.

Мне было прыкра ад іх вар'яцкай маніі, дурной упартасці, і разам з тым нешта прыцягвала мяне да гэтых незвычайных людзей.

Пасля візіту да іх я часта знарок пачаў раней адрывацца ад работы, каб прыйсці на абед у «Залатую змяю» роўна а сёмай гадзіне. Тады я мог сесці за адзін стол з пані Бурдак. Яна не была такой ваўкаватай, як яе муж, і даволі наіўна дзялілася са мной сямейнымі трывогамі і праектамі.

— Эжэн, — аднойчы прызналася яна, — чалавек выключнай інтуіцыі. Ён прадугледжвае ўсё. Сёння ўночы раптам у яго з'явілася думка, што ўрад можа абвясціць абмен грошай, каб выбраць іх з прыватных рук, і тады мы будзем вымушаны прад'явіць свае долары.

— Вядома. І што ж тут дрэннага?

— Гэта вельмі сур'ёзна, — сказала яна. — Мы нічога не прад'яўлялі, калі Міністэрства фінансаў Злучаных Штатаў у 1943 годзе ўзяло на ўлік маёмасць бежанцаў... На нас бы пасыпаліся непрыемнасці... Але ў Эжэна ёсць новы план. Здаецца, у некаторых рэспубліках Паўднёвай Амерыкі падатак на прыбыткі не накладаецца. Калі б нам удалося туды перакінуць наш капітал...

— Як жа яго перакінуць, не паказаўшы ў таможні?

— Эжэн мяркуе, што трэба спачатку прыняць падданства тае дзяржавы, якую мы сабе выберам. Калі, напрыклад, мы станем уругвайцамі, перавод туды грошай будзе законны.

Гэта мне паказалася настолькі забаўным, што назаўтра я прыйшоў у рэстаран снедаць. Пан Бурдак, як заўсёды, сустрэў мяне з радасцю.

— О! — заварушыўся ён. — Гэта так добра, што вы якраз прыйшлі. Я хацеў у вас запытацца... Ці не ведаеце вы, якія трэба выканаць фармальнасці, каб стаць венесуэльцам?

— Не скажу, не ведаю.

— А калумбійцам?

— Таксама не ведаю. Наконт гэтага вы звярніцеся ў консульствы адпаведных краін.

— У консульствы? Вы што, ашалелі? Каб прыцягнуць увагу!

Ён з агідай адсунуў смажанае кураня і цяжка ўздыхнуў:

— Што за эпоха! Вось бы нарадзіцца ў 1830-м і пражыць увесь век без казначэйскага гвалту, без страху, што цябе абрабуюць! А цяпер кожная краіна — разбойнік з вялікай дарогі... Нават Англія... Я там прыхаваў некалькі карцін і габеленаў з разлікам даставіць іх сюды. І ведаеце, што яны ад мяне патрабуюць? Стопрацэнтную пошліну за вываз, што раўназначна канфіскацыі... Нас абкрадваюць, дарагі мой пане, як у цёмным лесе, як у цёмным лесе.

Пасля гэтага я выехаў па справах у Каліфорнію, так і не даведаўшыся, кім яны сталі: уругвайцамі, венесуэльцамі ці калумбійцамі. Калі праз год я зноў вярнуўся ў Нью-Йорк, я запытаў пра іх у пана Рабера, гаспадара «Залатой змяі»:

— Скажыце, як Бурдакі? Вы штодня іх бачыце?

— О не! — здзівіўся пан Рабер. — Што вы? Хіба вы не знаеце? Яна памерла месяц таму назад, відаць, ад сардэчнай хваробы, і з таго дня яе муж сюды ні нагой. Не іначай сам захварэў ад перажыванняў.

Я ж уявіў сабе зусім іншую прычыну. Я паслаў старому спачуванне і папрасіў дазволу яго наведаць. Назаўтра ён пазваніў мне па тэлефоне, каб я прыйшоў. Ён быў вельмі бледны, страшэнна худы, губы белыя, голас як з-пад зямлі.

— Я толькі ўчора дачуўся аб вашым няшчасці, — прамовіў я, — і з'явіўся неадкладна, каб вам чым-небудзь дапамагчы, бо, апроч смутку і болю пасля такой страты, вы, я ведаю, цяпер і самі ў немагчымым становішчы.

— Не, не, — запярэчыў ён. — Зусім не... Можна прывыкнуць... Праз акно мне відны прахожыя, праязджаюць аўтамабілі... І потым, скажу вам шчыра, жывучы так, я нарэшце адчуваю сябе ў бяспецы. Раней, ідучы снедаць, я проста мучыўся... Мала што магло здарыцца за маю адсутнасць... Хоць я ведаў, што там мая жонка, мой бедны друг, але ж яна не любіла брацца за рэвальвер, асабліва, калі пачало здаваць сэрца. Цяпер я адчыняю дзверы, і чамадан у мяне заўсёды на воку... Перада мной тое, што мне даражэй за ўсё... І пакуты мае акупаюцца... Вось толькі адна бяда — мой бедны Фердзінанд.

Пудзель, пачуўшы сваё імя, падняўся, падбег і сеў у нагах гаспадара, пільна на яго паглядаючы.

— Нічога не зробіш, я не магу цяпер сам вадзіць яго на прагулку, але дамовіўся з пасыльным, па-іхняму «бел-бой», і што за мова, называлі б, як людзі — «пасыльны», а то ламай язык. Ах, гэта англійская мова — чысты смех! Я знайшоў маладога хлопца, і, за невялічкую плату, ён абслугоўвае Фердзінанда, гуляе з ім, ну і ўсё іншае... Так што болей ніякіх сур'ёзных праблем у мяне няма... Вы мелі ласку, дарагі мой пане, прапанаваць мне вашу падтрымку, але ж яно ідзе на лад, усё ідзе на лад, магу вас запэўніць.

— А вы больш не збіраецеся перасяляцца ў Паўднёвую Амерыку?

— Не, дарагі мой пане, не... Што я там буду рабіць? Вашынгтон больш не ставіць пытання аб абмене грошай, і ў мае гады...

Ён сапраўды вельмі пастарэў: умовы, у якіх ён сябе прымусіў жыць, падрывалі здароўе. Ружовыя шчокі выцвілі, завастрыліся, кожнае слова вымаўлялася з натугай.

«Наўрад ці ён доўга працягне», — падумаў я.

Пераканаўшыся, што нічым яму не дапамагу, я развітаўся. Быў у мяне намер зрэдку заходзіць да яго, але праз некалькі дзён, разгарнуўшы «Нью-Йорк Таймс», заўважыў загаловак: *Смерць французскага эмігранта. Поўны чамадан долараў.* Я прачытаў рэпартаж. Паведамлялі пра старога Бурдака. Яго знайшлі мёртвым раніцай. Ён ляжаў на сваім чорным чамадане, закруціўшыся ў коўдру. Смерць была натуральная, скарб некрануты. Я прыйшоў у атэль «Дэльмоніка», каб даведацца, калі і дзе адбудзецца пахаванне. Таксама спытаў адміністратара, што з Фердзінандам:

— А дзе ж сабака нябожчыка пана?

— Прэтэнзій не паступала, аддалі гіцлям на жывадзёрню.

— А грошы?

— Калі не знойдуцца наследнікі, дык іх забярэ амерыканская казна.

— Канец вясёленькі, — сказаў я.

А сам падумаў: «Вясёленькі канец доўгай і нуднай гісторыі».

***Пераклад з французскай Юркі ГАЎРУКА.***

## *Віншуем!*

**Рэдакцыі газеты «Прамень» Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны г.Рыгі**

***Дарагія сябры!***

***Сардэчна віншуем усіх вас са знамянальнай падзеяй — выхадам першага нумара газеты. Ваша ініцыятыва заслугоўвае вялікай падзякі і павагі, бо яна сведчыць аб тым, што вы праяўляеце вялікі клопат аб шанаванні і прапагандзе роднай мовы сярод беларусаў, якія жывуць у суседняй суверэннай дзяржаве.***

***Зычым вам, дарагія суайчыннікі, поспехаў у гэтай высакароднай справе!***

***Няхай «Прамень» заўсёды свеціць ярка і напамінае ўсім пра сваю Радзіму, пра яе мову і яе культуру, пра яе гісторыю.***

**Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.
Рэдакцыя газеты «Наша слова».**

## *Афарызмы*

***Мілаван ВІТЭЗАВІЧ***

✧ Эпітафія Маякоўскаму:
Быў воблакам у штанах. Ды бліснула маланка і грымнуў гром!

✧ Сталін кляўся, што ён ленінец, і тут перабольшыў!

✧ З Гогалевага шыняля выходзілі пісьменнікі, з Сталінавага — цэнзары.

✧ З-за свайго псіхааналізу і Фрэйд стаў пацыентам пісьменнай часткі чалавецтва.

✧ Псіхааналіз адкрывае няздзейснены Фрэйдаў эратычны сон!

✧ Бабель той самай моваю пісаў пра сіфіліс і зоры. Прымаючы першае, прымаюць з даверам другое!

✧ Кола гісторыі было ў парадку, але восі аказаліся крывыя!

✧ Віншую: рэальнасць не здрадзіла Оруэлу!

✧ Оруэл найбольш здзейсніўся там, дзе яго забаранялі!

✧ Оруэлава хірургія: перасадка дзяржаўных органаў!

✧ Самая небяспечная паліцыя — тая, што праводзіць труску гісторыі.

✧ Чарнышэўскі быў такі перадавы, што адной нагою выскачыў з рускай літаратуры!

✧ Ёсць у нас ідыёты, не хапае нам Дастаеўскага!

✧ Сляпому правадыру трыумфальная брама — тупік.

✧ Калі гарматы прамаўляюць, музы галосяць.

✧ Сусветныя войны — вынік маніякальнага касмапалітызму.

✧ «Працэс» Кафкі не можа скончыцца!

✧ Ленін уехаў у Расію ў жалезным траянскім кані!

✧ Розніца паміж рэвалюцыяй і дэмагогіяй адпавядае розніцы паміж браняносцам «Пацёмкін» і пацёмкінскімі вёскамі.

✧ Паводле закону адмаўлення адмаўлення адбылося сцвярджэнне сталінізму.

✧ — Чаму кастрычніцкі пераварот не адбыўся летам?
— Таму што спатрэбілася штурмаваць Зімні палац.

✧ Футурызм — гэта авангардная мінуўшчына!

*Пераклаў з сербскахарвацкай мовы Іван ЧАРОТА.*

## У свеце красы



Фота Белінфарма.

***Навум Гальпяровіч***

* * *

*Гэты дождж, гэты снег, гэты дым,*
*Што азваліся ў сэрцы Айчынай,*
*Захавалі душу ад бяды,*
*Светлай роспачы сталі прычынай.*

*Я і ў крыўдзе з пакорай прыму*
*Лёс твой, нават калі памылковы.*

*Ды не здраджу абранаму слову,*
*І апратак чужых не прыму.*

*І ў віхуры халодных вятроў,*
*У цямрэчы пагрозлівых хмараў*
*Да цябе захаваю любоў*
*І аб будучым шчырую мару.*

## ЗАПРАШАЕ ДОМ ЛІТАРАТАРА Ў СНЕЖНІ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 20 снежня аўторак | «ЖЫВЫ ФАЛЬКЛОР» Падвядзенне вынікаў, віншаванне і канцэрт пераможцаў конкурсу прыпевак, арганізаванага газетай «Звязда» і фірмай «Dainova» | 18.30 | Вялікая зала |
| 21 снежня серада | Секцыя перакладу | 15.00 | Канферэнц-зала |
| 22 снежня чацвер | «ЧАРНОБЫЛЬ ЧАРНОБЫЛЕМ, А ЖЫЦЬ ТРЭБА» Сустрэча перасяленцаў з літаратарамі | 18.30 | Вялікая зала |
| 26 снежня панядзелак | КАЛЯДНАЯ ВЕЧАРЫНА З АЎЦЮКОЎСКІМІ ЖАРТАМІ | 18.30 | Вялікая зала |

Уваход свабодны. г.Менск, вул.Фрунзе, 5, тэл.36-09-09.

## Пачутае «У Лявона»

* * *

Падаткі — заплаціў, за кватэру — заплаціў, за энергію — заплаціў, за газ — заплаціў, за ваду — заплаціў, страхоўку — заплаціў...

Божа!!! Адкуль у мяне столькі грошай узялося?..

* * *

— А дзе прапала твая чароўная сяброўка?

— Мы з ёй расталіся.

— Ты адмовіў такой сімпатычнай дзяўчыне?

— Не буду спрачацца, яна мілая, але ў яе непрыемны смех.

— Гэта мяне здзіўляе, ніхто з нашай кампаніі нічога такога не прыкмеціў...

— Гэтага толькі не хапала, каб хто-небудзь трэці бачыў, як я раздзяваўся!

* * *

Муж хутка прыбягае дадому, абдымае жонку і цалуе. Яны на міг забываюць пра ўсё на свеце.

— Ну, а цяпер, — пытае муж, — скажы, як ты знаходзіш мяне без вусоў?

— Ах, гэта ты?!

* * *

Па горадзе ідзе мужчына, вакол пояса абмотаны вяроўкай. Яго спыняе паліцыянт:

— У чым справа?

— Павешуся! Жонка ад мяне пайшла.

Паліцыянт здзіўляецца:

— Вяроўку ж трэба было прывязаць да шыі.

— Спрабаваў: задыхаюся!

* * *

Кадравік прымае на работу новага працаўніка і пытае:

— Колькі гадоў вы былі на папярэднім месцы работы?

— Пяць гадоў.

— А чаму вы яе пакінулі?

— Была аб'яўлена амністыя...

* * *

— Як вашы новыя суседзі? — пытаюць вяскоўца, які пераехаў жыць у горад.

— Нязносныя.

— Чаму? Галасістыя?

— Наадварот, так ціха гавораць, што нічога пачуць нельга.

## Творчасць нашых чытачоў

***Антон МАНКЕВІЧ***

# Масцішча — месца зачараванае

**(Апавяданне)**

Невялічкая вёска Савічы, што размясцілася паміж лясоў і балот у Шчучынскім раёне, вядомая тым, што паблізу ад яе ёсць зачараванае месца — Масцішча. Хоць меліяратары і папрацавалі тут, але засталіся мосцік і канава, пра якія ідзе чутка: то конь там распражэцца, то воз перакуліцца, то хтосьці там немым голасам крычыць. Усяляк бывае...

Сонца правалілася за лес, калі Фадзей праводзіў свайго сябра Мірона. Яны дайшлі да балота.

— Хутка сцямнее, — заспяшаўся Мірон.

— Во, во, паглядзі заадно Масцішча, якое яно цяпер. Даўно я ўжо там не быў.

— Добра. Яго не абмінеш, — адказаў Мірон, зняў басаножкі, закасаў штаны і пайшоў хуткім крокам. Калі балота засталося ззаду, ён запаволіў хаду. Месца тут прыгожае. Фадзей расказваў пра эмігранта з іхняй вёскі, які прыехаў з Амерыкі, каб паглядзець гэтыя краявіды. Але КДБ БССР далей Менска яго не пусціў — а можа шпіён. Вярнуўся небарака ў Штаты і памёр. «І было ад чаго», — падумаў Мірон, ён і сам сумуе, калі не ўдаецца наведацца сюды. Ён прыгадаў, што паблізу адсюль быў калісьці іх хутар, дзе прайшло яго дзяцінства. Успомніў, як яны з Фадзеем рабілі ўсялякія хітрыкі, каб нагнятаць страх вакол Масцішча, хаця і самім было страшна.

Нечакана думкі яго перапыніліся: моцны вецер закалыхаў вяршаліны соснаў, адтуль узляцелі і пачалі кружыць над ім якіясьці таямнічыя птушкі. Валуны побач дарогі сталі нагадваць штосьці жывое.

«Няўжо гэта дух Масцішча?» — ён пачаў азірацца і прыслухоўвацца. Ужо зусім сцямнела і нікога паблізу не было. Вось паваротка, там вялізная дзічка-груша з дуплом, валуны... Ён глянуў на мосцік, і дрыжыкі пабеглі па ўсім целе — там віднелася постаць у белым. «Так і ёсць — гэта чараўніца, пра якую наслухаўся шмат розных гісторый», — жахнуўся Мірон.

Камень у руцэ трохі супакоіў яго, і ён зрабіў некалькі крокаў наперад. Постаць стаяла на месцы, але ківалася. «Танцуе, ведзьма», — ён зрабіў яшчэ некалькі крокаў і ўзмахнуў рукамі. Прывід заварушыўся больш энергічна і трохі перамясціўся; данеслася металічнае ляскатанне. Мірон адскочыў назад, але, трохі супакоіўшыся, зноў стаў набліжацца да страшнага месца, не зводзячы вачэй з таямнічай постаці. Неўзабаве, збянтэжаны, прыпыніўся: за мастком стаяў мужчына ў белай сарочцы. Ён напружана сачыў за Міронам, потым рэзка развярнуў веласіпед і з грукатам пранёсся міма. Мірон выцер рукой спацелы лоб і з роспачы шпурнуў камень: «Як жа гэта я так...»

На другі дзень сустрэўся сусед Пятрок і кажа:

— Учора ўвечары мае хлопцы бачылі ў Масцішчы дзвюх чараўніц. Яны то зближаліся, то разыходзіліся, а адна дык па паветры нават лётала.

— А ты ж казаў мне неяк, што іх там ужо няма...

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 50

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 7230 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 12.12.1994 г. у 15 гадзін.